(Якуб Колас)

ТАРАС ГУШЧА

# НЁМНАЎ ДАР

## І ІНШЫЯ РАСКАЗЫ







Вільня — 1928

„ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА“ Б. КЛЕЦКІНА



ТАРАС ГУШЧА

# НЁМНАЎ ДАР

## І ІНШЫЯ РАСКАЗЫ





ВІЛЬНЯ. 1928

«ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА» Б. КЛЕЦКІНА



## НЁМНАЎ ДАР.

### 1.

Уся гэтая каша заварылася посьле таго, як сюды прыяжджаў стары скарбовы каморнік з сваімі струмэнтамі. Рабілася гэта вясной, скора па Вялікадні.

Я добра памятаю, як гэны пан ішоў праз сяло. Дзеці цэлай чарадой ішлі за ім праз усю вуліцу, бо такая фацэтная хвігура тут зьяўлялася яшчэ першы раз. Гэта быў стары пан, якіх цяпер мала дзе сустрэнеш. Доўгія сівыя вусы, спушчаныя трохі к нізу, прыдавалі срогі выраз поўнаму твару пана каморніка. Круглае пуза так далёка выдавалася ўперад, што пэўне пан ня бачыў за імі сваіх кароценькіх ножак. Усякаму, хто пазіраў на пана, здавалася, што ён ня йдзе, а неяк пасовуецца, як бочка на колах. І то яшчэ было цікава, што гэтага пана ніхто не чакаў сюды і ніхто ня бачыў, як ён прыехаў у сяло і спыніўся ў лясьніка, што жыў тут на каморы. Праўда, і бачыць было ня так зручна, бо ўсякі ведае, што камора, дзе жыў лясьнік, стаяла трохі на атшыбі, там, дзе вуліца сяла пераходзіць у тры дарогі, так што зьява гэтага старога незнаёмага пана ў зялёным капялюшы з пяром зьдзівіла ўсё сяло. На што ўжо старая цётка Магда, каторую, здавалася, нічога на сьвеце не магло зацікавіць, і тая выйшла на вуліцу і, прыпершыся каля слупа варот,

доўга аглядала пана, залажыўжы рукі пад хвартух. Маладзіцы, нясучы ваду на каромыслах, таксама правадзілі вачамі каморніка, як толькі міналі яго, каб лепей разглядзець. Каб гэты пан азірнуўся ў той канец, адкуль ён стаў ісьці, то ён абачыў-бы сялян, каторыя то тут, то там стаялі кучкамі і аб чымсь гаманілі, паказуючы на яго асобу.

— Хто гэта? Каморнік ці што? — пытаў Жыбуль, падходзячы да аднае кучкі.

— Каморнік, — адказвалі сяляне.

— Што-ж ён мае тут рабіць? — Але на гэтае пытаньне ніхто ня мог даць толкам адказу, а калі і гаварылі, чаго прыехаў сюды каморнік, то канечне ўстаўлялі ў сваю гутарку, „мо“. але такая гутарка не магла мець характару напэўна ведамага.

Відаць, што будзе мерыць тут нейдзе блізка,— сказаў Мацей Дворны.

— Чаму бліска? — спытаў яго адзін з сялян.

— Каб далёка, то ён-бы ехаў, а ня ішоў.

— Ну, але, — патакнулі сяляне.

А тым часам пан каморнік, мінуўшы манапольку, зьвярнуў на другую вуліцу, ідучы каторай можна дайсьці да Нёмна.

Двое работнікаў, каторыя нясьлі струмэнты каморнікавы, і лясьнік, ішоўшы на крок ззаду ад яго, схаваліся ў другой вуліцы. Туды-ж павярнула і чарада сельскай дзятвары, а сьледам за ёю рушылі і сяляне. Так за грузкім павуком цягнуцца ўсе павучынкі, як ён, намеціўшы сваю заблутаную ахвяру, не сьпяшаючыся, стала скіровуе да яе свае чэпкія лапы.

Трывога сялян, зьмешаная з цікавасьцю, расла па меры таго, як каморнік падыходзіў да Нём-

на. Усім хацелася, каб каморнік сеў у човен і пераехаў на той бок, але нікому гэта ня верылася, кожны быў пэўны ў тым, што пан няпрыменна паверне налева туды, дзе ў апошнія гады Нёман, як-бы зжаліўшыся над сялянамі і іх страшэнным уціскам, зьвярнуў ад сяла, зрабіўшы шырокую дугу, і адрэзаў ім раскошную луку. Праўда, тут быў сыпкі пясок, але цяпер пясок гэты стаў борзда пакрывацца скарынкаю, як маладое цеста ў печы, і зелянець смачнаю травою.

2.

Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман. Кожны год удзярэ ён якую-небудзь штуку: то выкаціць на чый-небудзь шнур стары, мокшы вякамі ў ім, труп дрэва, то выхапіць цэлую луку ў адных і прыточыць другім, або падрэжа грунт, на каторым доўгімі вякамі стаяў асілак-дубу самай добрай згодзе з суседам — Нёмнам. Ня знае стрыманьня ён, ня ведае, куды дзець свае магучыя сілы. Але ніхто ня жаліўся на яго свавольства. А ў нашым сяле яго надта любілі, бо ён для сяла быў, як родны бацька: і карміў, і паіў, і на сваіх плячох кожнага вынасіў, і кожнага за лета разоў тры ў Коўню і Горадзен вазіў, ды яшчэ і на дарогу даваў грошы. Праўда, язда па Нёмне на плытох ня зусім лёгкая рэч. Але што лёгка даецца на сьвеце простаму чалавеку? Нёман быў нэрвам сяла, каторы будзіў яго жыцьцё і запраўляў чутка прыслухавацца да таго, што робіцца вакруг. І ўсе важнейшыя справы былі так ці начай шчэплены з Нёмнам. Тут, на яго беразе, каторы так блізка падхадзіў к сялу, зьбіраліся

сяляне і радзілі свае рады. Кожны крок Нёмнаў, кожны спад ці прыбытак вады ў ім не праходзілі незакмечанымі для сялян. А ў апошнія гады Нёман задумаў новую штуку: у тым месцы, дзе бераг яго датыкаўся аднаго канца сяла, ён пачаў рабіць зварот, пракладаць новую дарогу, адразаючы шырокую луку да сяла. Прабегшы дугою па даўжыні сяла, ён ізноў падьходзіў ужо да другога яго канца, і далей бег старою дарогаю.

Вось-бы каго паслаць у Думу дэпутатам! — жартавалі сяляне, цешачыся, як Нёман прырэзае ім шырокі разгон,—прынамся быў-бы дэпутат, бо стаіць за нас!

Адрэзаная лука борзда засьцілалася зялёнаю травою, і коні з вялікаю ахвотаю ўжо скубалі яе, а сяляне радаваліся, што цяпер быў хоць невялікі прыпынак для скаціны. Дык і ня дзіва, што з такою трывогаю пазіралі яны, куды паверне пан каморнік. Падыйшоўшы пад Нёман, гэты фацэтны пан зьвярнуў налева, як раз у луку. Яшчэ трохі прайшоўшы, ён спыніўся. Работнікі павольна і далікатна паклалі на пясок струмэнты, а пан каморнік, дастаўшы скрутак паперы і начапіўшы акуляры, стаў углядацца. Паглядзіць у паперы, потым на луку; ізноў уткнецца носам ды ўзноў глядзіць перад сабой. Для ўсіх цяпер стала ясна, што на гэтую луку скарб хоча палажыць сваю лапу. Сяляне, зьліўшыся ў вялізарную грамаду, паволі паціснулі да пана каморніка. Гурт людзей ішоў спакойна, як далёкая хмара, але ў гэтым спакоі хаваліся бліскавіцы і громы затрыманага гневу. Сяляне спыніліся, акружыўшы каморніка таўстой сьцяной жывых целаў.

— Што гэта за цацкі прывёз, пан, сюды? —

спытаў каморніка Андрэй Зазуляк, кіўнуўшы галавой на каморніцкія струмэнты.

— А такія цацкі, каторымі ты ня ўмееш гуляць, — спакойна адказаў каморнік.

— Глядзі, як рэжа!—думалі сяляне і чакалі, што скажа на гэта Андрэй.

— А пан умееш? — ізноў спытаў Андрэй.

— Я ўмею, — ўвесь век з імі гуляю.

— То добрая гульня, калі пан нагуляў такі жывот.

Каморнік зірнуў на Андрэя, і вусы яго заварушыліся. Відаць хацеў нешта сказаць, але не знайшоў чаго. Ён яшчэ раз сярдзіта лупнуў на Андрэя з-пад сівых навіслых броваў.

— Адыйдзецеся, мужчыны, бо вы замінаеце мне, — сказаў пан каморнік.

— Што гэта, пан, думае рабіць? — спытаў хтось з грамады.

— Буду праводзіць граніцу і ставіць капцы, каб вы ведалі, дзе скарбовае і дзе вашае.

— Як?! і скарб хоча сюды зачасацца?

— Чаго-ж ён маўчаў дагэтуль? Калі-ж гэта да скарбу тут што належала? — пасыпаліся пытаньні.

Вядомы ў вёсцы шутнік стары Ахрым, зьвярнуўшыся да грамады казаў:

— Няхай-бы лепей пан каморнік прыйшоў у маю хату з гэтым дзедам, — тут Ахрым павёў рукой у старану каморніцкага трыножніка—і правёў-бы граніцу на печы, а то мы ніяк не памяркуемся з Аршуляю і ўсё сварымся. Я займу печ ад сьцяны і скажу ёй, што гэта частка належыць да скарбу, а яна няхай сабе на чаране прышчыцца.

Мужчыны зарагаталі.

— Ці-ж ня праўда? — казаў далей дзед: — скарб хоча залесьці к нам на печ... Тфу! — плюнуў Ахрым: — сораму ў іх няма! — і старыя вочы дзеда сярдзіта заблішчэлі:

— Ты сабе плюй, ці ня плюй—мне ўсё адно: не мая гэта бацькаўшчына і не сабе мераю. Паслалі мяне сюды і я павінен слухаць. А вы сабе рабеце, як знаеце. Мне ад гэтага няма ніякага прыбытку. Прагоніце мяне, не дасьцё зрабіць работу — вас тут многа, а я адзін — біцца з вамі ня буду.

— Мы да пана нічога і ня маем, — пачуліся галасы з грамады.

Мужчыны адыйшліся.

— Стаў сабе, пан, капцы, праводзь граніцу. Няхай хоць тысяча капцоў стаіць тут, а гэты бераг, як быў наш спрадвеку, то нашым і застанецца.

Цяпер грамада раскідалася на кучкі. Кожная кучка мела свайго аратара. Адны гаварылі так, другія начай. Сяляне разьдзяліліся на дзьве часьці. Меншая часьць маладыя мужчыны, стаялі за тое, каб ня даць каморніку паставіць капцы. Другія, сталыя мужчыны, гаварылі, што так рабіць ня добра, бо ўмяшаецца паліцыя, і ім-жа горай будзе. Проці гэтага доваду ніхто ня мог сказаць, бо ўсім было на памяці, як гады тры таму была спорка з суседнім дваром і як у гэтую спорку ўмяшалася паліцыя. І ня ўсе яшчэ сяляне, каторых тагды арыштавалі, вярнуліся з астрогу за супраціўленьне начальству.

А каморнік пад гоман сялян рабіў сваё дзела. Як паглядзелі яны на граніцу, то ўсе на мамэнт замёрлі: уся лука была адрэзана да скарбу. Граніца ішла каля самых платоў, дзе канчаліся гароды

і дзе цягнуўся высокі вал голага пяску. У адным канцы граніцы ўжо быў глыбока ўкапаны слуп, як-бы ён стаяў тут на доўгія часы. З другога канца ставілі другі капец. Разьмерыўшы, каморнік пашоў назад, за ім работнікі ізноў нясьлі струмэнты, а мужыкі, як аглушаныя громам, усё яшчэ стаялі.

3.

Хітры, злодзей, гэты лясьнік з каморы, дарма, што малады. Як толькі каморнік, забраўшы струмэнты, выйшаў з лукі, за ім пашоў і лясьнік, ня даушы і знаку, што яму наўперад вядомы дальшыя пляны сялян. Схаваўшыся з іх вачэй, ён спрытна замёў свае сьляды, зайшоў з загуменьня і, прытаіўшыся ў кустох недалёка ад лукі, пазіраў, што будуць рабіць сяляне, каб пасьля далажыць у лясьніцтва.

— Ну, ня зьдзек-жа гэта? — апамятаўшыся, сказаў Андрэй Зазуляк. — залезьці да нас у хату і распараджацца, як дома. Ці-ж ёсьць на сьвеце справядлівасьць?

— Ха! — махнуў рукой стары Ахрым,—справядлівасьць! Дзе яна тая справядлівасьць?! Справядліва пасадзілі ў вастрог нашых хлопцаў? Справядліва паштрафаваў земскі, як судзіліся за пашу? Выдумалі справядлівасьць, а спытай, нашто яе выдумалі, то і ня скажуць! — Тут дзед пачаў пералічаць усе здарэньні, дзе з сялянамі абыйшліся несправядліва.

— Але-ж усю да чысьценька луку выкраіў!

— Ото дзіва! цяпер ясна карціць ім: праз два гады тут будзе добры луг, чаму-ж не захапіць яго?

Кожны селянін тут чуў вялікую крыўду.





А пастаўленыя каморнікам капцы стаялі, як вартаўнікі скарбовых інтарэсаў і адным сваім выглядам прыводзілі ў злосьць сялян, бо капцы гэтыя цяпер былі ня простыя акапаныя слупы, а мелі аблічча заклятых непрыяцеляў іх.

Доўга стаялі тут сяляне з сваёю крыўдаю, адзінокія закінутыя, і нідзе іх вока не знаходзіла апоры і падмогі ў гэтай кроўнай несправядлівасьці. Доўга гаманілі і гудзелі яны пад адкрытым небам, як устрывожаны вулей, размахвалі рукамі, як лес лапамі ў грозную буру. Як трохі ацішэла успышка іх гневу, Андрэй Зазуляк увайшоў у сярэдзіну, зьняў шапку і стаў ёю махаць. Сяляне змоўклі і бліжэй сталі да Андрэя.

— Вось што, хлопцы, скажу я вам. Жаліцца нам няма куды, і ніхто нас не падтрымае, хоць наша і сьвятая праўда. Спытайцеся ў старых, — няхай вось скажа стары Ахрым, — усякі, хто запамятае, скажа, што гэты бераг быў наш собскі, такім ён і павінен застацца.

— Павінен застацца і застанецца! Ты праўду гаворыш, браце, Андрэй — зашумелі навокал сяляне.

— Няхай хоць сто каморнікаў прыежджае сюды, далей гаворыць Андрэй, — няхай ставяць хоць тысячу капцоў тут, а гэты бераг мы ня ўпусьцім; гэта дар Нёманаў, дарагі дар, і мы павінны шанаваць яго. Зірнеце навокал, тут няма таго месьцейка, дзе-б ня ступала нашая нага; кожная пясчынка тут прыгладжана нашым лапцем; у гэтым жоўценькім пясочку кожны з нас качаўся, як быў малы. І аддаць гэты бераг, усё роўна што пазволіць адсячы сабе руку або нагу. Няхай яны ставяць капцы, гэта іх дзела, а мы будзем выкідаць іх, — гэта наша сьвятая павіннасьць.

Сказаўшы гэта, Андрэй сьмела і цьвёрда рынуўся на капец. За Андрэем павaліў увесь гурт народу. Сьвежа ўкапаны капец яшчэ не астояўся тут, і цяжкая зямля яшчэ не пасьпела асесьціся. Андрэй крэпка абняў слупок, упёрся нагамі ў зямлю і зрушыў яго. Падскочылі сяляне выцягнулі яго і павалілі ў Нёман. Два мужчыны, пабраўшыся за канцы слупка, разгойдалі яго і далёка шпырнулі ў ваду.

— Дар за дар! — сказаў Грышка Астапчук, кінуўшы ў Нёман гэты слупок.

Пачуўся пляск вады, узьняўся цэлы сноп прыскаў, і слупок перакруціўшыся раз, другі, спакойна паплыў за вадою.

— Танна ты, браце, лічыш Нёмнаў дар, — сказаў Грышку Мікіта Кажан.

— Не! можа ён яшчэ што цікавейшае возьме! — сказаў стары Ахрым.

Так зрабілі і з другім капцом, і бераг ізноў стаў такі самы, як-бы сюды ніколі не заходзіў пан каморнік.

А лясьнік, стоячы ў кустох, усё гэта бачыў і чуў.

— Ну, Ганна! Цяпер ты ў мяне будзеш крыху мякчэйша і ня будзеш так высака задзіраць нос, калі табе хоць трохі шкада бацькі. — Так думаў стоячы малады лясьнік. Здаволены і вясёлы, шмыгануў ён у загуменьне і выйшаў у поле з другога канца сяла.

4.

Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя чары, поўныя зьлёгка сумнага хараства. Першыя зоры ўжо

замігацелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залітым пажарам узьнімаўся кругам блішчасты месяц. Дробныя, белыя хмаркі высьцілалі яму дарожку сваімі лёгкімі празрыстымі тканямі і расступаліся прад ім, скупануўшы ў яго блеску свае тонкарунныя кудры. Пахла зямля, багата акропленая расою. У сяле чулася гаворка і песьні. Вясёлыя маладыя зыкі сьмела ўразаліся ў цішыню ночы і бойка нясьліся на рэчку; тут яны ўпыняліся ў высокі бераг, адскакавалі назад і беглі ўдоўж яго па дузе лукі, і заміралі ўжо за лагуном. У лагчыне над Нёмнам дружна і зложна краталі жабы. Было нешта смутнае і жалабнае ў гэтай простай і аднатоннай іх песьні, што чапала душу ціхім смуткам, і так згодна зьлівалася з маладою задумаю веснавой ночы. Сяло заціхала; зрэдка па вуліцы брыла адзінокая хвігура селяніна, што спазьніўся. Толькі дзяўчаты яшчэ ня спалі і пяялі на прызьбах песьні.

Накінуўшы на плечы хустку, Ганна, дачка Андрэя Зазуляка, сядзела адна на сваёй прызьбе. Часамі яна ўскідала на вуліцу вочы і зьлегка ўздыхала. Зараз-жа каля калодзежа зачырванелася нейчая хвігура, каторая важна сунулася пасярод вуліцы. У гэтай хвігуры ня трудна было пазнаць маладога лясьніка. І маладзец-жа гэты лясьнік! І па ўсім відаць было, што ён, апрануўшы сваю куртку з касьцянымі гузікамі і закруціўшы вусы, ішоў вуліцаю і важна выкідаў нагамі, абутымі ў боты з блішчастымі халявамі. Тагды здавалася яму, што ён падпірае сваёю галавою неба і што ім дзівіцца ўсё сяло.

— Добры вечар, Ганна! — сказаў лясьнік, падыйшоўшы да дзяўчыны, і працягнуўшы ёй руку.

Ганна неахвотна падала яму сваю руку, ціха адказаўшы:

— Добры вечар!

— Што-ж ты ня просіш мяне прысесьці? — ізноў скзаў лясьнік, стоячы перад дзяўчынай і дрыгаючы нагамі ў блішчастых ботах.

— Або ты зьвярэдзіўся? Ляжаў, як вол, увесь дзень.

— Ці-ж толькі тых, хто зьвярэдзіўся, просяць садзіцца? — спытаў лясьнік і падняў вышэй адзін вус: або ты бачыла, як я ляжаў?

— Падумаеш, якая цікавасьць,—бачыць, як ён ляжыць, — сказала Ганна і стала пазіраць у другі бок.

Ну, гэта і Ганна! Уродзіцца-ж такая краля. Цяпер, як сьвет месяца паў ёй на твар, лясьнік з мінуту стаяў і ня спушчаў з дзяўчыны вачэй.

— Мусіць ты, Ганна, чакала некага?

— Ведама, чакала.

— Каго-ж ты чакала? можа мяне?

— Ой, голубе! патрэбны ты мне, як у мосьце дзірка!

Зьняважаны лясьнік прыкінуўся, што ня чуў гэтага і, важна надзьмуўшы шчокі—так рабіў пісар у лясьніцтве — ступіў некалькі крокаў каля прызбы.

— А я хацеў штось сказаць табе, Ганна, але ты такая паненка, што і прыступу да цябе няма.

— Ці-ж ты што людзкае скажаш? — спытала Ганна і засьмяялася.

— Ты ведаеш, што ты ў мяне ў руках?—памаўчаўшы, зьнячэўку спытаў лясьнік.

— Я ў тваіх руках? — ускінула Ганна на лясьніка дзіўныя вочы.

У сурёзнасьці тону, каторым лясьнік сказаў свае апошнія словы, і ў голасе яго пачулася нейкая гразьба, і дзяўчына, у прадчуцьці нядобрага, зьлёгка затраслася, і сэрца яе заныла. Але, каб схаваць гэтую няясную трывогу душы, яна спакойна ўжо сказала:

— Што ты хвалько і высака задзіраеш нос ведама ўсім. Але я не падданая твая і я цябе ніколечкі не баюся. І прыстане-ж чалавек, як слата, нідзе ад яго няма супакою!

— Я не хвалько і наса не задзіраю. Калі і задзірае хто нос, дык гэта гы. Толькі-ж я ня прыйшоў сварыцца з табой. А сварыцца са мной табе ніяк не выпадае. Ты ведаеш, хто сягодня прыяжджаў сюды?

— Каморнік, — хто-ж?

— А ведаеш ты, што зрабілі сяляне з тымі капцамі, каторыя па яго прыказу былі пастаўлены на граніцы?

— Вон павыкідалі, бо ім там ня месца.

— Ага, і ты такая-ж! А ведаеш, пад чыёю гэта камандаю рабілі сяляне? Ведаеш, хто першы даткнуўся рукамі да рубежных знакоў?

— На што мне гэта ведаць? А каб і ведала, то табе не сказала-б.

— Мне казаць ня трэба, бо я сам усё бачыў і ўсё чуў. Мяне то ня бачылі, бо я не такі дурны, як яны. Дык ведай-жа, што гэта работа твайго бацькі. Гэта ён падмаўляў і падвучаў дурных мужыкоў. А цяпер яшчэ спытаю цябе: ты ведаеш, што за зьніштажэньне рубежных знакоў садзяць на цэлыя гады ў вастрог? І гэта ты ведай! Можа тагды і нос твой ня будзе так высака падымацца ўгару.

Усё гэта лясьнік гаварыў са злою насьмешкаю і ўсё бліжэй наступаў на дзяўчыну. Ганна нізка апусьціла галаву і маўчала, а ў лясьніка вочы так і гарэлі. Ён бачыў, што на сэрцы ў яе смутна, і што яго словы білі па найбалючэйшых яе струнах. Некалькі мінутаў ён маўчаў. Былі ў яго такія мамэнты, калі ён чуць-чуць стрымліваўся, каб ня кінуцца на дзяўчыну і каб не абняць яе крэпка-крэпка.

— І ўсё, Ганначка, залежыць ад цябе! Скажы мне хоць адно ласкавае слова, хоць зірні на мяне хорашанька, і я ад усяго адступлюся, — гаворачы гэта, лясьнік прыхіліўся да яе і, распасьцёршы рукі, хацеў абмяць.

— Вон! — крыкнула дзяўчына і выпрастала свой высокі стройны стан, і адхінулася ад лясьніка.

— Гад! — памаўчаўшы, дабавіла яна.

Лясьнік на крок адступіўся.

— Ну, добра, — сказаў ён.

5.

З другога канца вуліцы ціха, як цень, ішла высокая хвігура. Пазнаўшы ў гэтай хвігуры Васіля Падбярознага, маладога прыстойнага дзяцюка, лясьнік схамянуўся і хацеўісьці. Але гэты стрынгаль яшчэ гатоў падумаць, што ён, лясьнік, яго збаяўся. Цяпер лясьнік надта хацеў-бы, каб і Васіль быў замешаны ў гэтую справу з капцамі. О, тагды ён сухім ня вышаў-бы. Не хадзіў-бы ён такім козырам па вуліцы, не шаптаўся-б з Ганнаю цэлыя ночы па цёмных куточках дый яна ня хінулася-б да яго, як лісіца ў полі, як гібкая трава-бярозка да жыцінкі. Васіль таксама ня вельмі

паважаў лясьніка. Ужо даўно ляжаў між імі цень супольнай ненавісьці. І не раз ужо стыкаліся яны, але пакуль што справа далей шорсткіх слоў яшчэ ня йшла.

— Добры вечар, Ганна!—сказаў, падыйшоўшы.

— Добры вечар! Сядай, Васілю,—сказала Ганна і чуць пасунулася, каб даць блізка каля сябе хлопцу месца. Васіль сеў. Злосны і зняважаны лясьнік сядзеў здалёк.

— А! добры вечар! — абярнуўся да яго Васіль. Ён наўмысьля прыкінуўся, што толькі цяпер заўважыў яго.

— Калі гэта, Васіль, вочы перасталі служыць табе? — спытаў лясьнік.

— А з таго часу, як ты пачаў насіць сурдут з касьцянымі гузікамі і боты з блішчастымі халявамі, — адказаў Васіль.

— А ты дык надта паразумнеў, як скінуў лапці і ўзлажыў бацькавы боты. Мусіць мае касьцяныя гузікі табе вочы колюць?

— А колюць, браце; бо закмячаў, калі хто ў сябе нічога ня мае, дык той на сябе цацкі начапляе.

Лясьнік устаў, пусьціўшы між вушэй Васілёвы словы, і сказаў:

— Дабранач, Ганна!

— Будзьце здаровы.

— Чым мела тут з Васілём лізацца, пайшла-б лепей бацьку торбу на дарогу пашыла, — сказаў лясьнік, адыйшоўшы шагоў пяць, і засьвістаў якуюсь польку.

— Сьвішчы, сьвішчы! — сказаў Васіль: — паглядзі ідзі, ці цэлыя капцы, а то дарма хлебам кормяць цябе.

— Цябе паставіць на месца капца, то ня так скора выцягнулі-б, бо ты доўгі, як шнур,—адсёкся лясьнік ужо здалёк.

— Лепей сам стань там, аднак вакансія ёсьцы!— гукнуў у сьлед яму Васіль і голасна зарагатаў.

Ганна і Васіль некалькі мінут сядзелі маўчком.

— Што ты, Ганна, нешта сягодня невясёла?— спытаў Васіль дзяўчыну, палажыўшы ёй на плячо сваю руку.

— Гэта табе так здаецца, — сказала Ганна, апусьціўшы галаву.

— Ой, не! Ну, зірні-ж мне ў вочы, — не адступаўся Васіль, і блізка прыхіліў сваю галаву да Ганны. Дзяўчына яшчэ болей прыгнулася і пазірала ў зямлю.

— Можа „касьцяны гузік" скрыўдзіў цябе? А можа ты ня рада, што я прыйшоў і ня даў табе пагаварыць з ім? Можа ты сярдуеш на мяне, што я сыпаў яму, як прыскам у вочы?

І з кожным пытаньнем голас у Васіля мяняўся: то ў ім гучэў малады задор, то чуўся страх утраты любай дзяўчыны.

— Ат! гаворыш няма-ведама што, — сказала дзяўчына: — або ты мяне сягодня толькі знаеш?— узьняла яна свае мокрыя вочы і так глянула на Васіля, што гэты пагляд глыбока прайшоў у яго сэрца.

Васілю стала лёгка і добра, і ён пачуў у сабе прыліў вялікай сілы і шчасьця.

— А ўсё-ж ткі, Ганначка, ты нечага сумна. Ведаю добра, што ў цябе нейкі клопат на сэрцы. Скажы мне, не затойвайся. Мне так весела, хачу, каб і табе было лёгка на сэрцы.

Ганна трохі памаўчала.

— Ведаеш, Васіль, што сказаў ён мне?

— Ну, што?

— Ён стаяў у кустох і выглядаў, як выкідалі капцы, і бачыў як тата першы ўзяўся за капец. І яшчэ ён гаворыць, што тата намаўляў людзей зьністажаць рубежныя знакі. Ён сярдзіты на мяне, што я ганю яго, і цяпер хоча заявіць на тату ў лясьніцтва.

— А ведаеш, куды ішоў ён, радзячы мне шыць бацьку торбу на дарогу? Гэта каб я гатавала бацьку ў вастрог.

— Няўжо-ж ён зробіць гэта? Ах, Юда, прадажнік! Не! Гэтага ён не павінен зрабіць! Я злаўлю і задушу яго, калі ён не прысягне мне маўчаць.

Васіль падняўся з прызбы і памкнуўся ісьці!

— Стой, Васілю! Куды ты пайдзеш? Нічога з гэтага ня будзе,— сказала Ганна, узяўшы хлопца за руку, — ён яшчэ раз прыйдзе і будзе страшыць, ня так то скора ён адступіцца ад мяне. А за гэты час можна што і прыдумаць. Трэба пагаварыць з татам, што ён скажа, а пароць гарачку яшчэ рана.

— Чакаць і ў шапку спаць!—стаяў Васіль на сваім.

— Баюся, Васілёк, каб ты не памог тут, як кашаль у хваробе. Ня варта мне было казаць табе, Васіль. Які гарачы!

— Як-жа не гарачы? Гэты смурод, Юда, будзе ўдаваць, а яму ніхто ня сьмей і слова сказаць?.. Ну, пачакай! — патрос Васіль здаравецкім кулаком у той бок, куды пайшоў лясьнік: — шчасьце тваё, што ўсе хлопцы на плыты пайшлі, у гэту ноч табе дрэнна прыйшлося-б.

А лясьнік, прайшоўшы вуліцу, зьвярнуў к Нёману і пайшоў у луку.

Цяпер трудна было знайсьці і тое месца, дзе стаялі капцы. Доўга хадзіў лясьнік па беразе. З галавы яго ні на мінуту ня выходзіла прыгожае аблічча маладой дзяўчыны. І чым болей яна адхіналася ад яго, тым мілей была яна яму і тым мацней прыцкгала яго да сябе. Злосьць і крыўда агарнула лясьніка. Яго так зьняважылі, аплявалі. А цяпер сядзяць на прызьбе і можа сьмяюцца з яго. Але не! ён не пазволіць сьмяяцца над сабою! Ён такую ўдзярэ штуку, што і сам чорт заскача з радасьці! О, ён пакажа, што такое ён. Усе будуць помнець яго!



## 6.

Ніхто на заўтра ня ведаў, хто і калі паставіў новыя капцы. І то яшчэ трэба сказаць, што між сялян пайшла глухая гаворка, у каторай чулася нейкая трывога і страх. Усе выглядалі так, як-бы ўнезабаве павінна было штось зрабіцца, і на твары найболей баязьлівых было напісана чаканьне чагось нядобрага. У сяле ўсякія слыхі, усякая гутарка, каторая вядзецца патайно, бяз усякіх сьведак, скора робіцца агульнай абладай. Здаецца само паветра разносіць усё тое, што робіцца і гаворыцца ў сяле.

У гэты дзень якраз прыпадаў Юры. Яшчэ не пасьпела прабудзіцца сяло, а ўжо ўсе ведалі, што лясьніку ведама ўсё. ведама, хто выкідаў капцы, ведама, што хто гаварыў і навет думаў,— адным словам, ведаў усё, што рабілася ўчора ў луцэ. Бадай ня кожны селянін чуў цяпер за





сабою, хоць малую, віну і трошкі баяўся. Цяпер сяляне пачалі разьбірацца ў тым, што рабілі і што чулі ўчора ў мамэнт абуджанага ў іх гневу.

„Што-ж“ думалі некаторыя: „калі прыяжджаў каморнік ды яшчэ з дакумэнтамі, то пэўне ён ня так сабе праводзіў граніцу, а меў нейкі грунт пад сабою“. А як цяпер ведалі, што Андрэю можа прыйсьці не салодка, то і іншыя папад'жымалі хвасты і туліліся, каб ня вельмі быць на паяўцы.

Ды ня ўсе, праўда, так думалі, былі і такія,— хоць іх было меней, — каторыя не баяліся ўдаваньня лясьніковага, а сьмела стаялі за луку, бо былі цьвёрда пераконаны, што гэта лука іх і што новыя капцы павінны быць выкінуты вон, як і першыя. А аб Андрэю гаварылі, што з удаваньня на яго нічога ня выйдзе. Трэба толькі дружна, усёю грамадою, калі завядзецца дзела якое, сказаць, што лясьнік удае яго з помсты за тое, што ён ня хоча аддаць за яго Ганну.

Такія гутаркі падыймалі дух у баязьлівых.

— Вы баіцёся гэтага „касьцянога гузіка“? — гаварыў Васіль Падбярозны да баязьлівых, што ён можа ўдаць у лясьніцтва? А няхай удае. Капцы ізноў стаяць. Што-ж? няхай ён начэпіць гузікаў яшчэ ззаду; можа тут, сярод вас, ёсьць яго прыяцель,— няхай ён пайдзе да яго і скажа, што я, Васіль Падбярозны, усё роўна павыкідаю гэтыя капцы к чортавай мацеры; гэта яго работа, і я ведаю, куды цэліў ён, стаўляючы іх уночы. Толькі-ж няхай ён ведае, што калі пасьмее разявіць рот, каб удаць мяне, то я яго разам з капцамі ўтаплю ў Нёмане. Няхай ён гэта ведае і помніць.

Апошнія словы Васіль сказаў ужо ў злосьці, і кулакі моцна згарнуліся, а сам ён прайшоўся

грозна, як бура. Сяляне проста любаваліся, пазіраючы на Васіля — такі ён маладзец: высокі, плячысты і такі сьмелы.

7.

Сонца ўжо было на заходзе.

За сялом у полі навакол агню гуляла цэлая чарада дзяўчат, спраўляючы расу. Недалёка ад агню на камяні стаяла пустая скавародка і ляжала некалькі драўляных відэлцаў. Тут-жа, за камянём, стаяў невялічкі глячок ад гарэлхі, цяпер пусты і па рылца ўкапаны ў зямлю: дзяўчаты схавалі яго, каб часам сюды ня зірнула цікавая вока якога-небудзь маладога гульца і не раскрыла іх патайной выпіўкі. Тут-жа валяліся лупінкі ад яечак, як сьлед таго, што дзяўчаты пяклі яечню. Дзяўчаты вясёла пялі песьні і скакалі па жыце, каб яно ляпей расло і радзілася.

— Мне сягодня так вясёла, дзяўчаткі, так вясёла, што і сказаць трудна! Мусіць, я буду плакаць, — гаварыла Ганна.

— Каб у нас быў такі Васіль, то мы-бы ня знялі, на каторую нагу і ступіць, — жартавалі дзяўчаты, — дзіва, што ёй вясёла.

— Вось, Ганначка, якая ты шчасьлівая: і Васіль цябе любіць, і лясьнік, усе. Хоць-бы ты мне аддала гэнага лясьніка, — жартліва шчабятала Кацярына: — ён хоць і ня надта харошы, але-ж сурдут яго чаго варты!

І дзяўчаты аж заходзіліся ад сьмеху, перабіраючы костачкі хлопцаў.

— А паралюш іх бяры з хлопцамі! давайце, дзяўчаткі, лепей пяяць. Ганна зачынай!

— А і праўда, будзем пяяць,—сказала Ганна.

Дзяўчаты сталі ў кружок, пабраліся за рукі, а Ганна хадзіла ў кругу з вянком на галаве, сплеценым з першых красах. І сама яна была, як краска: навет дзяўчаты любаваліся яе прыгожым тварам, доўгімі цёмнымі косамі і стройным станам.

Але песьня зараз абарвалася.

— Ціха! ціха! — закрычэла адна дзяўчына такім праразьлівым голасам, што ўсе папалохаліся і перасталі пяяць. З-пад Нёмна нёсься трывожны крык сялян і чуўся плач жанок; усе гэтыя зыкі зьліваліся ў страшную музыку якогась няшчасьця.

Дзяўчаты страшна перапалохаліся. Ганна не магла прамовіць і слова. Сэрца яе білася моцна, моцна. Яна страшна зьбляднела і прысела на зямлю.

— Ой, галубачкі! забілі некага! загаласілі дзяўчаты і кінуліся кулём туды, адкуль нёсься крык.

. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .

8.

Узяўшы стрэльбу, лясьнік з каморы ящчэ ўдзень пайшоў пільнаваць капцы, каторыя ён сам і паўстаўляў. А ўстаўляў ён іх у надзеі ўкачаць Васіля і замяшаць яго ў справу з капцамі, бо ведаў гарачую натуру хлопца. Васіль-жа, згледзіўшы рана капцы, зразу дагадаўся, чыя гэта работа і для чаго яна зроблена. Абодвы хлопцы бачылі адзін аднаго наскрозь. Ня было ніякага сумлеўку, што яны памагалі адзін аднаму і тым рабілі лягчэйшым сваё спатканьне, бо аднаму і другому даўно ўжо хацелася зыйсьціся на чыстым плёсе

і зьвясьці свае рахункі. Нікому не гаварыў Васіль аб гэтым, бо баяўся перашкоды. Дык ён быў ась-цярожны. Як толькі гутарка між сялян супакоі-лася, Васіль на зьмярканьні выйшаў ціханька з хаты, зайшоў на прыгумень, адтуль, пералезшы плот, пайшоў загуменьнем і выйшаў з другога канца сяла на бераг Нёмнаў туды, дзе стаялі кап-цы. Лясьнік расхаджаваў недалёка ад іх. Абачыў-шы Васіля, ён спыніўся.

— Чаго ты снуеш тут? — спытаў Васіль лясьніка.

— А вось пільную капцы, каб часам які ня-годнік ізноў не павыкідаў іх, — дзёрзка адказаў лясьнік.

— А скажы ты мне, браце, хто ўстаўляў іх?

Гаворачы так, хлопцы схадзіліся ўсё бліжэй і бліжэй.

— Разумныя кажуць, што каморнік, а дурань можа іначай як скажа, — ня ведаю, — адказаў ізноў лясьнік.

— А ў сяле ня так гавораць: — кажуць: удзень капцы ставяць каморнікі, а ў ночы — пар-шыўцы.

З гэтымі словамі Васіль рвануў слупок і з страшэннай сілай павярнуў яго да сябе. Слупок падаўся, камлём прарэзаў жоўты пясок і вывер-нуўся на верх.

Тут выйшла тое, чаго лясьнік і сам ня ду-маў: яго як-бы што таўкнула і кінула на Васіля. У адзін скок ён апынуўся каля праціўніка і з ўсяе сілы трэснуў яго па галаве. Васіль закачаў-ся, але астаўся на нагах: Уся кроў прыліла яму ў твар.

А я думаў, што ты такі сабака, каторы кусае

з патайка, — сказаў Васіль заляпіўшы назад такую аплявуху, ад каторай у лясьніка пасыпаліся з вачэй іскры і кроў лінула праз вушы: Лясьнік асунуўся і ўпаў на зямлю. Потым ён у адзін міг падняўся, схапіў стрэльбу, каб узьвясьці брамку. Васіль ня даў яму на гэта часу, як зьвер наскочыў на яго, вырваў з рук стрэльбу і шпурнуў яе ў Нёман, і між імі пачалася сьмяротная бойка. Кожны напрог апошнія сілы і не паддаваўся. Васіль быў шмат дужэйшы, а лясьнік быў спрыцен, як чорт, так што праціўнікаў можна было лічыць роўнымі. Ад страшэннага натужэньня жылы іх уздуваліся і трашчэлі косьці. Доўга дужаліся яны, чуць не па калена ўлазячы ў пясок: Яны крэпка паўпляталіся адзін у аднаго рукамі. Быў мамэнт, у каторы здавалася, што яны нічога не рабілі, а адпачывалі, але гэта былі мамэнты, у каторыя ішла найбольшая работа іх сілы і каторыя рашалі бойку. Лясьнік слабеў усё болей і болей і чуў як сіла яго пакідае. Тузаючыся, яны ўсё бліжэй і бліжэй падступалі к берагу. А бераг у гэтым месцы быў высокі, абрывісты, а ўнізу пад ім пеніўся глыбокі вір. У канцы Васіль крэпка здушыў лясьніка і падняў яго упол. Цяпер ён мог рабіць з лясьнікам усё, што хацеў.

— Прысягні мне, што ня будзеш займацца ўдаваньнямі!

Але лясьнік злаўчыўся, выскаўзнуў з рук Васілёвых і ўлёрся нагамі ў дол. Тут ён, упёршыся нагамі, таўхануў Васіля. Байцы пераступілі граніцу берагу, дзе ўжо ня можна спыніцца, і яны, упаўшы пакаціліся адзін чэраз аднаго ў вір. Скочуючыся, Васіль разьбіў галаву аб востры камень. Абодва ўкінуліся ў ваду.

Каб яшчэ паўмінуткі, такога-б няшчасьця ня сталася, бо вось-вось набеглі мужчыны, але прыбеглі тады, як абодвых круціў ужо з страшнай сілай вір.

Мінут праз колькі іх выцягнулі бусакамі.

Васіль быў мёртвы, а лясьніка ўдалося адкачаць.

## МАЛАДЫ ДУБОК.

1.

— Ну, і людзі! — гаварыў сам сабе Максім Заруба: — ну, украў, ну, сьсек, хай цябе ліха сячэ; ды не рабі-ж ты на зьдзек чалавеку, не рабі так, каб кожнаму кідалася ў вочы твае зкадзействва, гіцлю!

Максім старанна аглядаў сьляды нядаўнай кражы у яго абходзе. Высокі, у палавіна чалавека, дубовы пень ясна выдзяляўся сярод дзеравяк і сьвяціў сваім сьветла-жоўтым вярхам і сьвежымі трэскамі вокал, а шырокая, разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі так невясёла і сумна, бы тыя пакінутыя бацькам дзеці. Зірнуўшы ўгару, Максім угледзеў маладую бярэзіну з абламанымі галінкамі. Гэта дуб, звалены бязжаласнай сякерай, кідаючыся, чапіў яе сваімі крэпкімі сукамі.

У лесе было ціха і маркотна, толькі ўгары стаяў глухі шум старых хвой і ялін. Высокія асіны і бярозы прылучалі зрэдка і свой голас да гэтага шуму, як часамі дужэй падыхаў сыры халодны вецер і варушыў іх голае вецьце. На гэтым месцы, дзе рос дуб, мала назначылася пра стору, і маладыя высокія елкі ўжо разгарнулі свае кашлатыя зялёныя лапы і занялі месца дубу. Так і за сталом жыцьця, дзе сядзіць цесная людзкая сем'я, ня пустуе месца выхвачанага сьмерцю семяніна.

Максім трывожна азірнуўся вокал, зьняў з-за плеч сваю старасьвецкую стрэльбу і паставіў каля хвоі; дастаў з-за пояса сякерку і пачаў замятаць сьляды неўпільнаванага злодзея. Ён ацерабіў верхавіну, пасьцягаў сукі ў гушчар, сьсек пень каля самай зямлі, завалок яго далей ад дарогі, пад вываранць, а тое месца, дзе быў пень, закрыў зялёным мохам. Максім сам у гэту мінуту быў крыху злодзеем. Але яму больш нічога не заставалася рабіць, як прыкрыць сьлед гэтай кражы, каб самому не нагарэла ад лясьнічага. Кончыўшы работу, Максім адышоўся крыху, азірнуў сваю працу, ці няма яшчэ якога знаку, па катораму можна было-б замеціць, што тут украдзены дуб. Усё была прыбрана гладка, але Максіму здавалася, што варта толькі зірнуць аб'ежчыку, каб адразу прыкмеціць, што не хватае аднаго дуба. А можа аб'ежчык раней яго агледзеў гэты недагляд і ўжо вядома ў лясьніцтве аб гэтай пакражы.

— І выбера-ж часіну, паганец! — зноў разважаў з сабой Максім.

Ну, каб папаў! Гужы, лейцы — усё пасек-бы.

Максім ніяк ня мог супакоіцца. Ён вышаў на дарогу, куды вёў сьлед ад калёс. А далей трудна было разабраць, куды ён пашоў: ці мала едуць па дарозе ва ўсе канцы? Максім пастаяў, патупаў, як-бы разьбіраючы важную справу. На душы ў яго было цэлае пекла. Злосьць на таго, хто сьсек дуб, хто, як сумыслу, як на зьдзек яму, зрабіў гэту кражу, ніколечкі не клапоцячыся схаваць канцы; далей—страх перад лясьнічым, страх за страту куска хлеба: даўно ўжо капаецца пад яго аб'ежчык, ня раз дакляраваў яму лясьнічы прагнаць яго з месца. Усе гэтыя думкі і па-

чуваньні рабілі тое пекла, што было на душы Максіма.

— І хто-ж бы мог зрабіць гэта?—Максім пералічыў колькі гаспадароў з вёскі, каторыя былі ў яго ў вялікім падазрэньні. Але не злавіўшы не кажы, што злодзей.

Максім яшчэ раз прышоў на тое месца, дзе рос яшчэ ўчора прапаўшы дубок. Як дарагі нябожчык, стаяў ён у вачох беднага лясьніка. Прыкрыўшы камель яловьмі лапкамі, Максім памалу пасунуў лесам.

Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч ня меў Максім супакою. Нават есьці не хацелася яму. Нейкі страх і трывога душылі яго. Кінуцца за весьніцы на дарогу сабакі, забрэшуць на каго, ці так што здаецца іх сабачаму розуму, Максім чуў, як у сярэдзіне ў яго нешта траслося і яму здавалася, што гэта пэўна ідзе Марцін з каморы ад лясьнічага з наказам зьявіцца ў кватэру. Але сабакі, пабрахаўшы, змаўкалі і патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на халодную сырую зямлю і яшчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес. Старая вярба, стоячы над самай хатай, шумела і хвастала галінамі па стрэсе, і як на зло Максіму, гаманіла пра пакражу.

Стукне вецер у ваканіцу, Максім увесь пацяпаўся: яму думалася, што гэта лясьнік, ці аб'ежчык.

2.

Андрэй Плех даўно ўжо меў сабе на прымеце дубок у лесе. Яшчэ летам, соваючыся з каробкаю па грыбох, насунуўся ён на гэты дуб. Як

чалавек, каторага агарнулі грэшныя жаданьні, Андрэй, наўперад азірнуўся і пачаў аглядаць важнецкае дрэва. Высокае, роўнае, выноснае, як точанае, яно здавалася, знарок тут вырасла на пакусу чалавека. „А пся кроў яго“, цмакаў Андрэй, — „от былі-б восі! А якія хвацкія вышлі-б паліцы на сохі!“ (Андрэй быў майстар па часьці сох). Да ня так то лёгка ўхопіш яго тут: сьсячы, пападзіся, — такі табе штрап закуціць земскі, што і кароўкаю не адапхнешся. І Андрэй, яшчэ раз акінуўшы вокам дубок, уздыхнуў і паплёўся дамоў. На ўсякі выпадак ён замеціў гэта месца. Скора пачалося жніво і Андрэй забыўся аб дубку, але, як на грэх, у яго колах разышліся сьпіцы. Трэба было думаць, як справіць новыя колы. На калодкі і вобады Андрэй меў пра запас бярэзіну, добрую, баравую, чачоткаватую бярэзіну з казённага лесу. Гэта Мікола Сіняўскі ўдружыў яму. А дзе-б узяць дубінкі на сьпіцы? І адразу ў яго вачох стаў малады дубок, што бачыў у лесе, зьбіраючы грыбы. Бадай ня кожны дзень думкі Андрэя вярцеліся каля гэтага дубка. Кепска толькі, каб яго качкі, калі пападзешся з ім. У сваім жыцьці Андрэй кіраваўся прыказкаю: „Не бяры чужога і ня бойся нікога“. Але во прыпёрла так, што прыходзілася пакасаваць гэты мудры кірунак. Праўда, што ў лесе красьці ня грэх. Гэта ня тое, што залезьці да чалавека ў хату. І хто ў лесе ня злодзей, той у дому не гаспадар. Лес — Божы — Бог яго росьціць і Бог гадуе. А князя чорт ня возьме, калі ён, Андрэй, сьсячэ адзін дубок. Так разважаў вечарамі Андрэй, пыхкаючы люльку.

Раз, пад вечар — гэта было ў нядзелю — Андрэй ішоў з места. І так неяк зрабілася, што ногі

Андрэевы самі пашлі па гэтай дарозе, каля каторай стаяў гэты шальмоўскі дубок. Андрэй ня мог стрымацца, каб не даведацца свайго даўнейшага знаёмага. Лес быў ужо зусім бяз лісьця і малады дубок выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыгажэйшым.

— Ах, злодзей! — гаварыў, цешачыся, Андрэй і аглядаў дубок.

Ідучы дамоў, Андрэй вылічаў, калі схадней яго сьсеч. Зьмена месяца пры гэтым стаяла ў Андрэя на першым пляне. Праз колькі дзён будзе маладзік. Ось тагды ён і зрэжа яго.

Якраз прад Усімі Сьвятымі, натачыўшы сякерку, Андрэй шаптаў свайму сыну:

— Запражэш каня і пад'едзеш пад Доўгі Лужок. Я буду там чакаць цябе. Ды глядзі, калі хто спытае, куды едзеш, скажы па каноплі.

Андрэй выбраў такія сьцежкі, каб ніхто не спаткаў (асьцярога ня шкодзіць) і ішоў прыгнуўшы галаву. Аднак, чым бліжэй падыходзіў ён да лесу, тым большы чуў ён страх. А змрок густы, халодны, прыветны, нярухома аблягаў зямлю. Ціха, глуха. Хоць-бы дзе зык чалавечага голасу. І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Пачуваньне маркоты і адзіноты агарнула яго. Андрэй азірнуўся назад, на сяло. Скрозь цемрадзь прыветна сьвяціліся вокны мужыцкіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі. Там сядзелі людзі і на душы ў іх была згода. Толькі ён, як злодзей, крадзецца адзін скрозь гэты змрок, прыхільны хаўрусьнік кожнага злодзея. Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу. Лепш-бы паставіць кварту за кусок дубніцы — сам выпіў-бы чарку і быў-бы сьмел і спакойны. І яму хацелася, каб

хто перашкодзіў яму цяпер, каб мецъ законнае права вярнуцца дамоў. Так было на душы Андрэя; ногі яго ўсё нясьлі і нясьлі ў гэты страшны, пануры лес, дзе цяпер так цёмна і жудасна. Яшчэ гусьцейшы і цямнейшы змрок апрануў Андрэя, як ён уступіў у лес. Падышоўшы з поўвярсты, Андрэй спыніўся. Во тая хвоя з меткаю, ад каторай трэба ступіць колькі крокаў направа. Патупаўшы, Андрэй сяк-так намацаў гэты дубок, каторага старажыў ня толькі Максім, а яшчэ пільнавалі і другія старажы, каторыя былі ў самым Андрэю — страхі. Андрэй прыслухаўся. Лес маўчаў. Можа ён зацікавіўся, што будзе рабіць тут гэты чалавек, чаго ён прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да сьмерці сон. І было штось страшнае ў гэтым нямым спакоі лесу, і гэты страх перадаваўся Андрэю: ён стаяў ціха, баяўся кашлянуць і павольна адводзіў яловыя лапкі. Калі-не-калі жалобна шорхаў сухі, завяўшы ліст, адрываючыся з дзерава і кідаючыся на сыры дол.

— Ну, што будзе, то будзе.

Андрэй узяў сякеру, хацеў перахрысьціцца, ды стрымаўся: гэта справа не сьвятая, і ён не адважыўся прызваць на помач імя Бога. Сякера высака паднялася ўгару, і пачуўся першы стук. Вострая сталь глыбака ўрэзалася ў маладое дрэва, і гэты першы зык быў падобны да цяжкога, адрывістага кашлю, каторы вырываўся з глыбіні надарваных грудзей сухотніка.

Андрэй, сякануўшы раз, адскочыўся ў бок і на момант замёр, прыслухаючыся. Але кругом было так сама глуха і ціха. Зноў узьляцела сякера і пашла латашыць усё часьцей і зласьней. Скора

адна палавіна дубка была падсечана; Андрэй зайшоў з другога боку. З кожным узмахам сякеры дуб слабеў і хістаўся, дрыжэў голымі сукамі і ўсім сваім целам. Во ён чуць пахіліўся, абамлеў і, здавалася, аглядаў месца, дзе-б упасьці. Андрэй упёрся рукой і таўхануў яго. Голыя сукі крануліся сукоў суседніх дзеравак, як-бы жагнаючыся з жыцьцём, зачапіліся на момант і, аслабеўшы асунуліся, і маладое дзерава цяжка ўпала, застагнаўшы, на зямлю. Андрэй адышоўся і зноў стаў слухаць. Адмерыўшы чатыры тапарышчы па камлю Андрэй з нейкаю злосьцю стаў адсякаць кавалкі дуба. Адсекшы кавалкаў шэсьць, ён пазносіў іх на дарогу. Спадалёк пачуўся глухі стук колаў аб карэньне. Андрэй пашоў на спатканьне сыну.

3.

Яшчэ ніколі не зазнаваў Андрэй такога клопату, як цяпер. Не дарма гавораць людзі: „Хто ўкраў парасё, таму і ў вушох пішчыць".

Прывёзшы да хаты шэсьць кавалкаў дуба, Андрэй да часу паскідаў іх на старану, дзе ляжала яшчэ немалочанае жыта і салома. Прызнацца, Андрэй нават ня рад быў, што сьсек гэты дубок: мала што можа стацца! Быць ня можа, каб хто ня бачыў, як ён пхаўся ўночы з лесу. А языкі ў людзей доўгія... Пад уплывам гэтых думак Андрэй быў неспакойны: спаў кепска і часта абуджваўся, прыслухваўся, што робіцца на двары.

Кожны грук, шум, кінутае кім на вуліцы слова прымушалі трывожыцца і думаць, чорт ведае што. І якая гэта схаванка — гумно? Усякі дурань першым дзелам паткне туды свой нос. Тут

Андрэю прышлі на памяць тыя здарэньні, калі ў гаспадароў знаходзілі дубкі, бярэзінкі і ўсякія падобныя рэчы якраз у гумнах... Трэба перахаваць і чым скарэй тым лепей,—покі не ўзялі яшчэ сьлядоў.

— Што гэта, Андрэй, на цябе сягоньня сну няма?—пытала жонка.

— Так ня сьпіцца.

І, памаўчаўшы, Андрэй сказаў:

— Ведаеш, я ўсё думаю, каб не агледзіліся гэтага дубка.

— Можна-ж схаваць так, каб не знайшлі.

— Ось і я гэта думаю: у гумне якая схованка? А дзе схаваць?

— Схаваеш заўтра — будзе часу. А цяпер сьпі.

Жонка адвярнулася да сьцяны і праз мінуты дзьве заіграла носам. А Андрэй яшчэ доўга ляжаў з адкрытымі вачыма і разважаў. Страшныя думкі лезьлі ў яго галаву. А што, калі хто ўдасьць яго? Прыдзе вураднік, стражнікі з аб'ежчыкам і лясьнікамі, зробяць вобыск і напэўна знойдуць у яго дубок. Зноў Андрэю ўспомніліся падобныя здарэньні. Моташна рабілася ад гэтых думак. Андрэй усунуўся ў шлепакі, накінуў на плечы кажух і вышаў на двор. Божа, якая цёмная ноч! Здавалася, неба блізка-блізка нахілілася к зямлі і ціснула яе сваім густым і цяжкім змрокам. І ўсё вокал было так глуха, так нема, усё роўна як закамянела, або вымерла. Андрэй зірнуў на той бок, дзе быў лес. Яго аж скалыхнула: здаецца, цяпер, каб і золатам абсыпалі яго, ён не пашоў-бы туды; як толькі хапіла ў яго адвагі ісьці туды, у такую цемраж! У сяле было таксама ціха і глуха,

нават сабакі і тыя усе змоўклі; відаць, і яны чулі гэты страх магільнай цішы і неадваж валіся зрабіць між сабой пераклічку. Толькі ў Яхіма хлявушку забляяла жаласна ягнятка, згубіўшы сваю матку і зараз-жа пачуўся кароткі адказны воклік старой авечкі: „Ідзі да мяне!“ ды часамі ў сьвінушніку ціха стагнала праз сон сьвіньня такім змарнелым, стамлёным галаском, усё роўна, як-бы ёй заставалася тры чверці да сьмерці.

Андрэй пастаяў, паслухаў. Гэта маўчалівая і страшная ноч не дала яму ніякага адказу і ён пашоў у хату.

„Сягоньня яшчэ можна быць сьмелым“,—думаў Андрэй, кладучыся на палок і ўкручываючыся ў дзяругу.—„Покі тое ды сёе, то яшчэ ёсьць часу схаваць, а цяпер можна спаць сьмела“. Але Андрэй аяжаў яшчэ з паўгадзіны і думаў, як хітрэй схаваць дубкі. На гэтых думках Андрэй і заснуў. І прысьніўся яму сон. Здаецца, прышоў лясьнік, Максім Заруба, у чыім абходзе ён высек дубок. Прышоў ня злосны, як можна-б чакаць, а надта маркотны. Твар яго быў белы, як-бы вымазаны мукой.

— Адабраў, брат Андрэй, ты ад мяне кусок хлеба! — сказаў Максім, — ад цябе я гэтага не спадзяваўся. — Сказаў, і невядома, дзе дзеўся.

Андрэй стаяў, як аглушаны. Хацеў сказаць слова — язык не варушыўся; хацеў бегчы за Максімам — ногі ня слухалі. І, цяжка застагнаўшы, Андрэй абудзіўся.

Ноч, доўгая, жудасная, трывожная ноч, яшчэ цяжка аблягала зямлю. Толькі што адсьпявалі другія пеўні і сяло ўсё яшчэ спала цяжка і глыбока, Андрэй ляжаў і тросься — так узбунтаваў

яго гэты сон і такі ён быў ясны, жывы і страшны. Трудна выказаць, што рабілася цяпер на душы Андрэя. За ўсе тыя часы, як ён убачыў гэты праклятые дубок і аж да цяперашняй мінуты, Андрэй ні разу не падумаў аб тым, што цяпер яму прысьнілася. І ня было прычыны так думаць: ці мала людзі крадуць у лесе? Каб за кожную неўпільнаваную кражу ў лесе выганялі лясьнікоў, то і лясьнікоў ня было-б на сьвеце.

І чаму-ж ён прысьніўся і прысьніўся так нядобра? Цяпер Максім ні на адзін момант ня сходзіў з вачэй Андрэя. Андрэй успомніў, што яны з Максімам сябравалі, разам гадаваліся, разам былі на прызыве і ў адзін год жаніліся, і ўжо потым разышліся, разышліся не з-за якога ліха, а так — проста, разлучыліся; а сходзіліся — кожны з іх мог сьмела паказаць вочы адзін другому. І Андрэй першы раз пачуў, што нейкая сьцяна вырасла ў гэту ноч між ім і Максімам. Андрэю было чагось шкада. Чаго? ён і сам ня ведаў.

4.

— Ну, што ў цябе чуваць? — Парубкі ў лесе няма?

Максім пачуў, што па сьпіне ў яго запоўзалі мурашкі, і нейкі холад прабег па ўсім яго целе. Маленькае замяшаньне і Максім цьвёрда сказаў:

— Усё ў парадку.

— У парадку? Ну, то хадзі-ж, я табе пакажу, які ў цябе парадак.

Сказаўшы гэта, аб'ежчык сярэдніх гадоў чалавек, правая рука лясьнічага і пярвейшая шэльма,

скрыва і злосна зірнуў на лясьніка і павёў яго ў лес. Максім увесь задрыжэў. Залажыўшы рукі за сьпіну і крэпка сьціснуўшы стрэльбу, ён моўчкі ішоў за аб'ежчыкам. Ён добра ведаў, куды вядзе яго гэты кат і што хоча паказаць яму.

„Вядзі, няхай цябе сьляпога водзяць. Кланяцца табе ня буду і прасіць тваей ласкі ня стану. Што будзе, то будзе,"— думаў, ідучы Максім.

— Ці ня будзеш ласкаў зірнуць, — гаварыў тым часам аб'ежчык, прывёўшы лясьніка на тое месца, дзе колькі дзён назад стаяў дубок. Аб'ежчык добра націкаваў гэта месца і ў яго наўперад усё было разьлічана. Нават яго далікатная прамова да лясьніка была абдумана раней, каб злосна пацешыцца з таго, як будзе выглядаць Максім Заруба, стоячы перад пнём сьсечанага дуба. Але працягнутая рука яго так і засталася: перад імі было гладкае месца і вокал стаялі дзеравы, ды дзе-ня-дзе тырчэлі абросшыя мохам даўнейшыя пні. Максім пазіраў на аб'ежчыка пглядам чалавека, каторы нічога ня цяміць і чакае тлумачэньня.

Аб'ежчык зірнуў на Максіма. Чуць значная ўсьмешка прабегла па губах лясьніка. Нават елкі, каторым на гэтым месцы было крыху прастарней, здавалася, усьмяхаліся, пазіраючы на аб'ежчыка— такую дурную меў ён міну ў гэту мінуту.

— Што за чорт!? — сказаў ён: — тое самае месца, а дзе-ж пень?

— Мала тут пнёў? — спытаў Максім, стаўшы на прыкрыты мохам пень нядаўна украдзенага дуба і паказваючы рукой на старыя пні.— Ды і сам пан стаіш, як пень, — ня вытрываў Максім, каб не пасьмеяцца з аб'ежчыка.

— Ты мне кпінак ня строй! — крыкнуў аб'ежчык і забегаў вокал лясьніка, як ганчак, вынюхіваючы сьляды. Улучыўшы мінуціну, лясьнік зірнуў адным вокам сабе пад ногі. У адным месцы мох адхіліўся, і з-пад яго сьвяціўся сьвежы пень. Максім чуць-чуць пасунуў нагу, каб закрыць гэту лысінку. Аб'ежчык, як каршун, зірнуў на лясьніка.

— А на чым ты стаіш, ягомосьцю?

Максім пачуў, што ён прапаў.

— Стаю, як і пан: нагамі на зямлі.

Аб'ежчык раптоўна падскочыў да лясьніка, таўхнуў яго ў грудзі і кашкянуў нагою мох.

Пень раскрыўся.

— Зладзюга! лес крадзеш, сам канцы хаваеш! — як гад, сіпеў аб'ежчык.

У адзін момант усё пазелянела ў вачох Максіма, і лес закружыўся, заскакаў. Нічога не разважаючы, размахнуўся ён, і яго цяжкая рука з галасным плескам апусьцілася на шчаку аб'ежчыка. Шапка зьляцела з яго галавы і сам ён захістаўся і паляцеў потырч носам на гэты пень. Максім накінуўся на свайго ворага і пачаў мяць яго.

— Удушу! — захрыпеў ён, як зьвер, сьцісну́ўшы аб'ежчыка за горла. Аб'ежчык зьвіваўся, як вуж, малаціў нагамі, кусаўся. Вочы яго вылазілі з сваіх гнёздаў.

Памыкаўся ён крычэць, клікаць на помач, але голас яго ня мог выбіцца з грудзёў, а вокал ня было ні аднэй жывой душы. Адзін толькі лес, нямы сьведка людзкога глупства, стаяў вокал глухой сьцяной і маўчаў, не варушыўся. Відаць, ён бачыў яшчэ не такія справы, стоячы тут вякамі.

— Братка, зьмілуйся! за што?—енчыў аб'ежчык, страціўшы надзею выкруціцца з рук лясьніка.

Да Максіма вярнулася памяць і розум. З вялікаю ненавісьцю зірнуў яму ў твар, борзда падняўся і сказаў:

— Ідзі, жалься на мяне, — і злосна пашоў у лес.

Аб'ежчык падняўся, узлажыў шапку, дзіка азірнуўся вокал і кінуўся бегчы.

— Гвалт, ратуйце! — крычэў ён, бягучы.

5.

Досьвету другога дня, Андрэй ужо кошкаўся ў хляве. Запаліўшы газоўку, павесіў яе на сьцяне і, ўзяўшы сахор, Андрэй адкідаў гной ад сьцяны з таго боку, дзе было вышэй. Чорная карова з аднэй загародкі, цялушка-выпустка — з другой і чырвоны конік уставіліся пільна на гэту цікаўную дзею. Толькі адна сьвіньня не хацела зьвяртаць увагі на Андрэя. Яна спакойна ляжала ў сваім берлагу і, здавалася, ніколечкі ня дзівілася, як-бы даўно ведаючы, што і чалавек зазвычай бывае сьвіньнёй. Прыбраўшы ямку і віслаўшы яе саломаю, Андрэй перанёс сюды з гумна дубкі, закрыў іх тоўстым пластом саломы і наверх нагарнуў гною. Скончыўшы работу, Андрэй акінуў вокам гэты куток, і на твары яго зьявілася ўсьмешка здаваленьня.

Згніюць тут, калі я сам не дастану іх, — сказаў сам сабе Андрэй і спакойна вышаў на вуліцу. Тут ён пастаяў, высмактаў люлек са дзьве, павітаўся з суседзямі і суседкамі, каторыя ішлі па ваду і, як чалавек, катораму няма чаго баяцца,

пашоў уладжвацца каля гаспадаркі. Ходзячы па двары, ён нават мармытаў пад нос навет нейкую песьню: „Шапка мая магерачка".

Прайшло днёў два. За гэты час ня выявілася нічога такога, што-б магло патрывожыць Андрэя і ён ужо рыхтаваўся дастаць з-пад гною дубкі, каб пусьціць іх у дзела. Якраз прышоў да яго сваяк, Яхім Бубен.

— Чуў ты,—гаворыць Яхім:—Зарубу гоняць з стражнікоўства.

Андрэй зьбялеў. У сярэдзіне ў яго нешта заныла, як-бы адарвалася і ён пачуў, як сэрца яго затахкала дробна-дробна.

— За вошта? — спытаў ён.

— А хто яго ведае. Кажуць, аб'ежчыка набіў, — парубка там нейкая знайшлася ў лесе, ну, і завяліся. А можа так абгаварыў яго аб'ежчык, хто іх там разьбярэ... От, прасіся за стражніка, — закончыў Яхім.

— А!—махнуў рукой Андрэй: служачы—хлеб сабачы.

— Ну, не скажы гэтага. Можна, брат, жыць лепш, як на гаспадарцы: паша дарэмная, дровы—дарэмныя, поле, сенакос, сякі-такі абрывак,—жыць можна.

— Э, брат Яхім: дзе ён ёсьць лёгкі хлеб? Добра служыць з добрымі людзьмі. А калі пачнуць кусаць адзін другога, то доўга не паслужыш. За які-небудзь паршывы дубок, зжалься Божа...

Тут Андрэй замнуўся.

— Не, брат, лепей ня знаць такога хлеба.

Яхім бачыў, што Андрэй ня хоча, ня мае ахвоты быць лясьнікам. Ну, яго воля.

Усё сяло гаманіла пра Максіма, разьбірала

яго спруву на ўсе лады. Адны трымалі руку Максіма, шкадавалі яго; другія — наадварот, былі рады, бо зайздросьцілі яму. А наагул нікога блізка не чапала тое, што чалавек страціў кавалак хлеба, і нікога ня цікавіла, як ён страціў яго. Пра гэта ведаў адзін толькі Андрэй. Але ўсё тут абярнулася так, што яму не выпадала падзяліцца з людзьмі сваімі думкамі. Гора ня ў тым, што людзі ня прыймаюць нашых думак, або насьмяхаюцца з іх: тут можам хоць цешыць сябе тым, што нашы думкі калі-небудзь знайдуць для сябе лепшы грунт, ці тым, што людзі яшчэ не дарасьлі да іх; усё-ж такі мы можам сьмела гаварыць іх, крычаць, не саромячыся паказаць іх прад вачыма ўсяго сьвету: Але таму, хто ня можа сьмела сказаць аб сваіх думках, хто баіцца вынесьці іх з свaей душы на людзкі суд і хто мусіць насіць іх, як атруту, на сваім сэрцы?! Такія нядобрыя думкі апанавалі цяпер Андрэя. Як-ні-як, а ён быў прычынай таго, што чалавека выпіхаюць вон на зіму без кавалка хлеба... Праўда, Андрэю яшчэ ня верылася, што гэта праўда. Яму зрэдка думалася, што ўсё гэта можа яшчэ ўладзіцца, і Максім застанецца. А можа тут хаваецца зусім іншая прычына? Гэтыя думкі на момант супакойвалі Андрэя і ён пытка прыслухваўся, што гавораць людзі. На другі дзень не заставалася ніякага сумляваньня, што Максіма гоняць. Цяпер сталі гаварыць ясьней і аб прычыне, па якой яго выганяюць. Максім, казалі, прадаў дубок у лесе. Моташна было Андрэю слухаць такія гутаркі — проста сьвет здаваўся яму нямілы.

Здаецца, узяў-бы завязаў вочы і ішоў-бы ня-ведама куды, абы знайсьці заспакаеньне, абы ня чуць гэтай згрызоты, што была на яго сэрцы.

І чаго яму было лезьці ў гэты лес? Сядзеў-бы сабе спакойна і гора ня знаў-бы. Эх, здаецца, каб нічога гэтага ня было, каб яно толькі прысьнілася яму! Усё-бы было добра, каб ня гэты дубок.

6.

Як толькі настаў вечар і добра сьцямнелася, а людзі крыху аціхлі, Андрэй ізноў пашоў у хлеў, адгарнуў гной і павыносіў дубкі на дрывотню.

Відаць, Андрэй нешта надумаўся. Прыхіліўшы дубкі да сьцяны, Андрэй доўга пазіраў на іх. Хвацкія дубкі. Важнецкія вышлі-б сьпіцы для колаў. А паліцы на сохі!.. На момант Андрэй забыўся аб тым, чаго ён прышоў; пасьля ўзяў самы таўсты кавалак дубка, палажыў яго на плечы і панёс у Нёман. Гэта была яго ахвяра сумленьню, гэтым хацеў ён выкупіць свой грэх прад Максімам і вярнуць спакой душы. Нясучы дубок, Андрэй раздумваў над тым, ці добра ён робіць, ці ёсьць тут які-небудзь толк. Колькі разоў ногі яго ішлі павальней, ён азіраўся назад — ці ня лепш вярнуцца, ды зноў схаваць іх?

— Э! — сказаў сам сабе Андрэй:—збуду з галавы гэты клопат, раз пакончу з гэтым ліхам!

І борзда пашоў на бераг Нёмна. Апусьціўшы павольна дубок, Андрэй узяў яго за адзін канец, а другі апусьціў у ваду. Нёман зараз-жа падхапіў яго на свае плечы, і Андрэй адразу пачуў, як яму стала лягчэй у руках. Тут ён з усей сілы стаўхануў камлюк на ваду. Дубок стралой панёсься на сярэдзіну, і толькі гладзенькая палоска вады

абазначылася яго сьледам і ён прапаў у халодных і чорных ад змроку хвалях Нёмна.

— Якому-ж лысаму чорту гатаваў я гэты дубок?! — крычала нешта ў Андрэю. Для каго я выпакутаваў яго сваёй крывёй? Хто спажывае боль мазалёў маіх? — І Андрэй забегаў па беразе Нёмана. Бягучы, Андрэй папаў у вырытую сьвіньмі яму і ўпаў, ляпнуўшыся жыватом на халодную і мокрую зямлю. Падняўшыся ён зноў пабег. Во і луг. Але ноч была такая цёмная, што нічагусенька ня было відаць. На другім беразе глуха шалясьцеў вецер у сухіх лозах і чаротах. Халодная, як жалеза, вада плюхала ў пустыя берагі і ўсхліпвала, як маці, страціўшы дзяцей сваіх... Пастаяўшы колькі мінуцін, Андрэй пашоў да дому. Раз пачаў, — трэба канчаць. Усё роўна, не на карысьць яму вырас гэты дубок. Андрэй узышоў на свой двор.

— Андрэй: гэта — ты? — аклікнуў яго голас.

— Я! — аказаўся Андрэй.

— Дзе цябе чэрці душаць? — спытала сярдзіта жонка, вячэра даўно стыне!

— Чорт яе ня возьме тваю вячэру,—адказаў Андрэй і палажыў на плечы два кавалкі дуба.

— Куды ты іх валачэш?

— Не табе ведаць.

Жонка змоўкла, а Андрэй зноў пашоў на бераг. Ён быў злосны і шоў борзда, а жонка назіркам ішла за ім. Яна зацікавілася, куды нясе Андрэй гэтыя дубкі. Спыніўшыся на беразе, Андрэй пакідаў абодвы кавалкі ў ваду. Жонку ўзяў нейкі страх. Ні слова не гаворачы, яна пабегла да дому. Ёй здалося, што Андрэй зьвіхнуўся з розуму.

Праз паўгадзіны Андрэй вярнуўся. Моўчкі

зьняў ён шапку, расьперазаўся, павесіў сьвітку і сеў за стол.

Жонка ня ўтрымала і пачала распытваць Андрэя.

— Ат, ня дуры ты мне галавы! — адмахнуўся Андрэй.

— Ну, ці-ж ёсьць у цябе розум? Навошта-ж было іх сеч? Каму з гэтага карысьць?

— Чорту лысаму! — сказаў Андрэй.

— Толькі-ж чорту... Хіба іх агледзеў хто? — не адступалася жонка.

— Во дзе яны ў мяне сталі, дубкі гэтыя — сказзў Андрэй і паказаў рукой на горла. — Чалавека вось выгналі за іх, а ты...

— Дык ты вярнуў яго гэтым?

Андрэй не знайшоў, што сказаць, маўчаў.

## 7.

Яшчэ больш заблутаўся Андрэй. Цяпер ён праканаўся, што кідаць дубкі ў ваду была дурная выдумка. І праўда: ці вярнуў ён гэтым Максіма на месца? Ці дастаў сабе спакой? І ласьне можна адкупіцца ад сумленьня тым, што ён пакідаў у ваду дубкі? — „Дурань я“, — думаў Андрэй, трасучы карове трасянку.

Уладзіўшыся, Андрэй выйшаў на вуліцу. Во, ужо колькі дзён ён староніцца ад людзей і жыве толькі сам сабой, сваімі думкамі, каторыя так моцна стамілі яго душу. У сяле, у тым яго месцы, дзе вуліца выходзіць к Нёмну, стаяла даўней старая карчма. Гэта карчма, бывала набіта людзьмі. Сюды сходзіліся і ў радасьці і ў горы; тут была гарэлка, каторая, як кажуць знайкі па часьці

выпіўкі, была і крапчэйшая, і таньнейшая, і шмат прыямнейшая ад цяперашняй манапалькі. Во, па старой памяці, сюды ўсё яшчэ цягнула сялянаў гэта месца, дзе стаяла калісь карчма, ад каторай застаўся адзін толькі падмурак; і тут стаялі яны, усунуўшы ў зубы цыбукі і схаваўшы рукі ў рукавы кажухоў, пад адкрытым небам. І гэтым разам былі тут мужчыны, і сярод іх ішпа сур'ёзная гутарка. Андрэй стаяў здалёк адзін і не адважваўся падыходзіць бліжэй. Раптоўна ён задрыжэў: у гэтай кучцы сялянаў быў Максім Заруба. Андрэй быў павярнуўся, каб ісьці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі. Патаптаўшыся момант на адным месцы, ён зноў павярнуў назад. Максім стаяў і штось гаварыў. Аб чым ён гаворыць? Андрэй ня мог больш працівіцца жаданьню ведаць, што гаворыць загублены ім чалавек, і ён пашоў. Яму паказалася, што людзі глядзелі на яго так, як-бы ведалі ўсю справу з дубком. Андрэй прывітаўся з сялянамі агульным „дзень.добры", а Максіму працягнуў руку і нясьмела сказаў:

— Здароў, Максім!

— Здароў, брат Андрэй! Ну, Андрэй,—сказаў Максім:—прымай, брат, у падсуседзі.

Сэрца ў Андрэя так і апала: няўжо Максім ведае, што ён, Андрэй, сьсек дубок? — чаму загаварыў аб падсуседзтве? Не! каб ведаў, то наўрад-бы падаў яму руку, ня толькі што зьвярнуўся-б да яго з такой прамовай.

— За вошта-ж, брат, цябе выдалілі? — спытаў замест адказу, нібы то нічога ня ведаючы, Андрэй.

— Тырчэў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца, — пню ня стрымацца.

— Дык не за дубок адказалі ад месца?! — з жарам спытаўся Андрэй, і вочы яго прасьвятлеліся.

Максім нахмурыўся, як-бы цень лёг на яго лоб.

— Скуль ты ведаеш аб дубку?

— Каму і ня ведаць, як не Андрэю,—пажартаваў Стаська Гук.

Андрэй зьмяшаўся, пабялеў і сказаў:

— Так гавораць.

Андрэй зірнуў на Максіма. За апошнія часы Максім асунуўся, пахудзеў. Вочы яго глыбока запалі ў лоб. Відаць, многа горкіх думак, трывогі і клопату перамятушылася ў яго мазгох. І было з чаго: што злога ён зрабіў? і за чыю віну папласціўся? І куды цяпер дзецца? Андрэй, як праступнік, апусьціў галаву. Момант, і ўвесь здрыгануўся, падняў галаву, акінуў усіх поглядам.

— Максім, братка! Гэта за мяне ты пакутуеш: гэта я сьсек дубок! Рабі са мной што хочаш. Бі, катуй мне! Усе змоўклі і пазіралі на Андрэя.

— Няхай будзе пракляты той час, калі я першы раз зірнуў на гэта няшчаснае дрэва. За што церпіш ты?

Максім горка ўсьмяхнуўся.

— Ты сьсек дубок? Ось, ніколі не спадзяваўся!.. Э! цяпер ужо ўсё роўна. Табе можа ад гэтага лягчэй, а мне — адзін чорт. Ды, калі на праўду вышла, то ты не такі ўжо вінаваты, як табе здаецца... О, каб я цябе злавіў у лесе, то быўбы другі рахунак. А цяпер твая споведзь паможа мне, як мёртваму кадзіла.

— Паможа, паможа!—закрычаў Андрэй: — я пайду ў лясьніцтва і раскажу ўсю праўду. Няхай мяне судзяць, няхай забяруць апошнюю карову, няхай пухнуць з голаду дзеці, — не кажы толькі, што Андрэй цябе згубіў!

Андрэй крута і з сілай павярнуўся.

8.

— Сьмейцеся, добрыя людзі: здурнеў зусім чалавек! — пачакаўшы з паўгадзіны, чуўся жаночы голас каля Андрэевай хаты.

Андрэй, апрануўшы кажух і ўзяўшы палку, вышаў з двара на гароды, каб ня ісьці вуліцай, а жонка стаяла каля парога і адчытвала Андрэя.

Андрэй маўчаў. Твар яго быў сур'ёзны, важны і спакойны.

— Вярніся, вярніся, Андрэй! — ня ўнімалася жонка. Андрэй ня слухаў і сьцігаў дальш, не азіраючыся.

— Божа мой! што з ім сталася? пагібелі сабе і дзецям шукае чалавек... Каб ты ногі паламаў, каб ты дарогі ня бачыў! Вярні-і-ся!

Жонка яшчэ доўга плакала і галасіла, а Андрэй тым часам мінуў ужо сяло і вышаў на дарогу. ! окал расьсьцілалася поле, голае, пустое, абабранае. Збоку цягнуўся луг наабапал Нёмна. Там і сям стаялі парыжэлыя стагі. Далей перад Андрэем пачынаўся лес, праз каторы ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурнае неба, як кепска загаранае поле. На ўзгорках падыхаў халодны паўночны вецер, гразь сьціскалася марозікам і пад нагамі цьвярдзела. Гадзіны праз паўтары Андрэй быў у лясьніцтве.

За сталом у канцылярыі сядзеў стары лясьнічы. Гэта быў няўступчывы чалавек, з каторым было трудна дайсьці да ладу.

Пераступіўшы парог канцылярыі, Андрэй нізка пакланіўся. Лясьнічы кіўнуў галавой і зноў стаў пісаць. Потым павярнуў галаву да Андрэя.

Пажаваўшы сківіцамі, пан запытаў:

— А што скажаш, чалавеча?

— Панок! — сказаў Андрэй і ўвесь падаўся наперад, — дарэмна пакаралі Максіма Зарубу: я ўкраў дубок! Тут Андрэй злажыў накрыж пальцы і пацалаваў іх.

— Пакарай мяне Бог, калі я за згодай Максіма высек гэты дубок.

Лясьнічы, вытрашчыўшы вочы, пазіраў на Андрэя. Пажаваўшы сківіцамі — такі быў звычай у старога пана жаваць сківіцамі перад тым, як гаварыць, — ён сказаў:

— А заўважай, небарача: ты гаворыш — дуб высек?

— Я, я, паночку!

— Гм! то які-ж бы ты быў гаспадар, каб ня краў у лесе? — спытаў лясьнічы.

— Панок, залаценькі! Даруй, панок, Максіму! Я вінават, — штрафуйце, судзеце мяне. За што-ж будзе нявінны чалавек цярпець?

— Табе Максім не сваяк?

— Не, панок, ня свой.

— То, мусі быць, ён цябе падгадзіў.

— Панок, грэх гаварыць гэта! Максім нічога ня ведаў. Толькі сягоньня пры людзях я прызнаўся яму і сам сабой прышоў да пана. Даруй, паночак, Максіму. Няхэй лепш мяне пан судзіць. Я вінаваты і я павінен адпакутаваць.

— Ха-ха-ха! А заўважай, небарача: сьмешны ты чалавек. Вось-жа ня буду ні штрафаваць, ні ў суд падаваць, калі ты гэтага просіш. А Максіма ня прыму, бо ён забіяка, разбойнік.

Доўга прасіў Андрэй лясьнічага, але пан быў цьвёрды і збываў жартамі.

... Грудкі хмарак разгладзіліся, неба пабялела і пашоў дробненькі сьняжок, як Андрэй ішоў з лясьніцтва.

Усю дарогу разважаў Андрэй у сваіх думках. На душы яго стала спакайней, як пасьля кожнай буры. А сьнег усё падаў гусьцей; зямля забялелася. Лес стаяў спакойны; толькі ўгары шумелі паціханку хваёвыя галінкі, як-бы віталі першы сьняжок. А можа яны шапталі што Андрэю, як шэпча маці, схіліўшыся над дзіцём, разсказвалі сваёй мовай аб тым, што Андрэй сапраўды не такі вінаваты, як гэта крычыць яму кожную мінуту яго чуткае сумленьне? Эх, лес! колькі чаго давялося бачыць яму на сваім вяку! Многа ён ведае ўсяго! І, каб Андрэй расчытаў яго гутарку, то саўсім-бы інакш пазіраў на сьвет.

І ўспомнілася Андрэю старая казка, каторую даўно-даўно, у шчасьлівыя гады яго дзяцінства, расказвала нябожчыца бабка.

Скінула неба на зямлю дзіўны клубочак. Усіх карміў гэты клубок, і карміліся ім людзі, карміліся зьверы і птушкі і розныя маленькія жывёлінкі, бо для ўсіх прадназначыла яго сьвятое неба. І ўсе жывіліся і для ўсіх яго ставала. Пазайздросьціў гэтаму злыдзень, і няма ведама дзе дзеўся дар неба. І цяжка стала жыць на сьвеце. Зямля пачала бяднець і спустошвацца. Дзе былі даўней шырокія рэкі — там засталіся цяпер чуць

значныя палоскі вады, дзе і саўсім яна высахла, парабіліся пустэчы. Лясы сталі зводзіцца, пачаўся голад сярод зьвяроў, многа іх паздыхала. Мошкі накінуліся на людзей, разьвёўся бруд, каторы накінуўся на чалавека і стаў піць яго кроў. Зямля пачала кепска радзіць; пашлі па сьвеце паморкі, паўстала сварка, калатня, бойка. Людзі сталі трывожныя, неспакойныя, усё чагось спадзяюцца, чагось шукаюць, да чагось прыслухваюцца. Само неба спахмурнела і адвярнула ад зямлі свой воблік...

Лес скончыўся. Во бераг Нёмана. Вярсты дзьве адгэтуль угару пакідаў Андрэй дубкі. Ён ішоў берагам, прыглядаўся, як-бы чагось шукаў. Вокал было пуста. А сьнег усё сыпаў і сыпаў...

ДУДАР.

Тром родным братом Бог даў аднакі розум, аднакія мысьлі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнага брата ў жыцьці. Хоць усім братом ня вельмі соладка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула сярод махоў і балот. Кепска жылося Меншаму Брату. Плакаў ён і ніхто ня бачыў яго сьлёз, ці не хацеў бачыць. Пяяў ён і песьні, доўгія, нудныя песьні, песьні нядолі. Гаварыў і казкі, і толькі ў казках ён бачыў сябе шчасьлівым. Яго сьлёзы капалі разам з расой на зямлю. Грэла сонца і сьлёзы, зьмешаныя з Божай расой, падымаліся к небу і адтуль кідаліся назад на зямлю чыстымі капелькамі. І так яны вечна кружацца з зямлі на неба, з неба на зямлю. І ніколі не высыхалі вочы Меншага Брата. Таўсты высокі лес адзін толькі слухаў яго песьні і сам памагаў яму сьпяваць сваім доўгім шумам. Выходзіў Меншы Брат увечар на двор, браў сваю дудку, садзіўся на прызьбе свае хаты і граў. Месячык каціўся па небе, плылі белыя хмаркі. Божыя зоркі, як саромлівыя дзяўчаткі, пазіралі на зямлю, праз белыя, тонкія хмаркі і слухалі Меншага Брата, а граў ён на дудцы. І ціха было на сэрцы, як ціха была сама ночка. І думкі,

як тыя хмаркі, лёгка радзіліся ў сэрцы і плылі яны Бог знае куды, далёка далёка, уміралі ціха-ціха, як паволі раставалі і белыя хмаркі ў небе. Толькі пугач і сава злым крыкам сваім будзілі ад шчасьлівых думак Меншага Брата. Ён прачыхаўся, як ад сну, і думкі другія, думкі нядолі, як нажом, калолі яму ў сэрца.

Ні думак, ні песень яго ніхто ня знаў і ня чуў, ці не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам. Разьбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі сьмяяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося вальней: лес ня душыў яго, ня гнаў, як гналі і душылі яго людзі. І Меншы Брат зрабіўся ціхі, спакойны, асьцярожны і нікому не адкрываў свае душы. Меншы Брат адзічэў. Лес і балоты адгарадзілі яго ад Божага сьвету.

Прайшло многа часу.

Усе тры браты сустрэліся. Старшы Брат пазіраў сьмела. Ён быў у ботах, у крамных портках і кашулі, а паверх кашулі — камізэлька. Гаварыў Старшы Брат скора, мова яго была адменна, і Меншы Брат ледзьве мог разьбіраць яго.

На Сярэднім Браце была высокая шапка, шырокія белыя порткі, боты. У зубох—круглая люлька на кароткім цыбуку; гаварыў ён мала.

Меншы Брат выглядаў старэйшым ад іх абодвых. Барада яго была сівая, рукі дрыжалі. Сам ён быў тонкі, худы. Яму як-бы брыдка было перад братамі, што на ім сівая рваная сьвітка, круглая шапка-кучомка; на нагах лапці, а каравыя анучы абвівалі худыя ногі.

Гаварылі браты аб усім: аб горкай сваёй долі, аб праўдзе, аб жыцьці.

Меншы Брат маўчаў. Яму не давалі гаварыць тэй мовай, каторай гаварыў ён сам з сабой, з сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы сьмяяліся старшыя браты.

— Гавары ты так, як гавару я,—кажа Старшы Брат, — і не страшы ты мову людзкую. Твая мова — нямая мова. Што сказаў ты сьвету на сваёй мове? Дзе песьні твае? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песьняры твае? Чым ты пахвалішся?

— Лепшай мовы я ня чуў. Гавару, як знаю! Брат! хто доўга маўчаў, таму хочацца многа гаварыць. А я маўчаў усё жыцьцё і мне хочацца гаварыць: не адбірай ты ад мяне хоць гэтага права. Спытайся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны сьлязамі, а сьлёзы разам з думкамі разьліліся ў рэчцы. Вецер—пясьняр мой. Гора і боль радзілі мае песьні і слухаў іх лес: Спытайся у лесу—ён скажа пра песьні мае.

Скажу табе казку. Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сьцены. Кажа яму пан: „Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песьні і тагды я пазволю табе сьпяваць людзям песьні, дарую права расказаць сьвету пра думкі твае“.

Праз каменныя сьцены ня вылілася песьня дудара, і ніхто яго не пачуў. — „Ты павінен маўчаць! — кажа пан дудару, — бо песьня твая нічога не сказала майму сэрцу. Няхай астаюцца ў табе твае думкі і песьні“. І дудара з таго часу слухала пустое поле, балота і лес.

Браты! усе мы шукалі шчасьця, толькі ішлі мы не аднакімі дарогамі. Табе хоць трохі сьвяціла сонца, а я йшоў, як уночы. Запалім-жа мы лучыны і пойдзем яшчэ шукаць долі, будзем памагаць адзін аднаму, а як заблудзіць хто з нас, падамо яму голас. Ня сьмейцеся-ж, браты, і не адбірайце ў мяне таго, што можа адабраць толькі Бог!

І сьлёзы блішчэлі на вачох Меншага Брата.

## ВЫСТАГНАЎСЯ.

Іван Кіслы гаварыў усё сваё жыцьцё. Усё гора была ў тым, што ў гэтага гора было яшчэ сваё гора: заўсёды выпадала так, што беднаму Івану ніколі не ўдавалася выплакацца, выгаварыцца, выскардзіцца і гэтым самым выліць з душы ўсю гаркату, увесь боль пахілага жыцьця. І ўсё складалася, як знарок, як-бы нейчая злая воля неадступна цягнулася за Іванам і не давала яму здарэньня аблягчыць яго душу. Цягнулася яна з даўных-даўных часоў, з тых часоў, калі Іван яшчэ пехатой хадзіў пад стол. Разравецца, бывала, Іван... ды каб-жа разроўся, як людзі: толькі скрывіць губы, глядзіш — ужо маці зьнімае хвартух і мабілізуе паскі на Іванаву сьпіну—„ня сьмей плакаць". Дзе тая праўда на сьвеце? Чаму Антось — як пачне плакаць, то кінецца на сьпіну аб зямлю і барабаніць нагамі так, што яму можа пазайдросьціць найпершы барабаншчык? Вазьмі-ж ты! Выйдзе Іван на вуліцу, завядзецца з кім біцца — што-ж гэта за чалавек, калі ні разу не пабіўся? — паб'юць, пакрыўдзяць Івана. Што-ж бы вы добрыя людзі, рабілі, каб вы самі былі Іванамі? Вы-б заплакалі, ўсякі-б заплакаў. А чаму не паплакадь Івану? Але-ж няхай папрабуе заплакаць: засьмяюць, заплююць ды ў прыдачу горш наштурхаюць.

Раз Іван, моцна пакрыўджаны, адважыўся зайсьці ў кусты на бераг рэчкі. Прышоў Іван, азірнуўся, сеў на беражок, прыслухаўся. Тут, думаў ён, ніхто яму не пашкодзіць адплакацца за ўсё. Кругом было так сумна, так ціха. Здавалася, усё журылася і настроілася слухаць плач Івана. І нешта ў сярэдзіне, каля самага сэрца, так завіло, так сьціснула, што Іван раптам нагнуў галаву і мімавольна падняў калошы портачак: яму здавалася, што ў яго так многа выцеча сьлёз, што вада ў берагох ня ўтоўпіцца. І толькі Іван завёў: „А-о-о-а — гы!“як з таго берагу паказалася з кустоў галава рыбака Сёмкі.

— Гэта ты прышоў пужаць мне рыбу, злодзей ты?! Я табе паскавычу!

Так і засталіся нявыплаканыя сьлёзы.

2.

Іван асірацеў. Астаўся ён адзін на сьвеце, бы тая калатоўка. Быў ён на плытох і ня бачыў, як хавалі бацькоў, так што і тут Івану не ўдалося паплакаць, як людзі. Сёстры яго павыходзілі замуж, адзін брат выбраўся ў Амэрыку, другі паехаў у сьвет шукаць шчасьця і долі. І Іван астаўся адзін гаспадарыць. Ад бацькоў засталася яму хатка, сякая-такая будоўля, надоба, худоба і паўчверці зямлі. Была ў Івана на прымеце й дзяўчына. Праз колькі месяцаў пасьля сьмерці бацькоў ён зрабіў заручыны, а на Сёмуху было назначана вясельле. За тыдзень перад Сёмухай Іван занядужаў. Доўга ён не паддаваўся, перамагаўся і ўсё-ж такі мусіў, бедны, здацца. У сераду перад Ушэсьцем, так пад вечар, Іван залёг. Дрыжыць Іван,

а работа ўся стаіць, рабіць некаму, хата непадмецена, усюды непарадак. А нашто ён, парадак гэты? — думае Іван, усё роўна ён памрэ; знайдуцца добрыя людзі і пахаваюць яго. Івану стала горка, як ніколі. Усё жыцьцё, шэрае, невясёлае жыцьцё, прайшло яшчэ раз прад яго вачыма. Што-ж? Ён памрэ. Яго закапаюць, і згніе ён, забыты скора навекі, і нічые вочы не затуманяцца слязьмі, як яго будуць нясьці на могілкі. І гэта называецца жыцьцё, гэта яго век!.. Адна толькі сьветлая мінуціна мігалася яму, як адзінокая зорачка ў бязрадасную восень: цяпер яму ніхто не пашкодзіць усім нутром, усёю сілаю змучанай душы аддацца смутку і жалю; хоць цяпер адплача ён усё гора жыцьця, адстогне ўвесь боль: ласьне чалавек ня мае права хоць на адну мінуту, сьветлую мінуту, у жудаснай імгле цёмнага жыцьця?

Іван паправіўся на пасьцелі, зьмяніў палажэньне свайго цела і абвёў поглядам хату. І толькі што ён прыгатаваўся застагнаць, як на парозе паказалася фігура яго маладой. „І хто яе прасіў сюды? Чаго яна тут?“ — падумаў Іван і нахмурыўся.

— Галубок ты мой! Што ты выдумаў хварэць? — жаласьліва спытала яго Магда.

— Нядобра мне, Магда. Мусіць і я пайду за бацькамі, — сказаў Іван. Яму самому так горка стала ад сваіх гэтых слоў, што сьлёзы гатовы былі самі паліцца з вачэй.

— Ну, што ты выдумляеш? Папраўішся, Іванка, — і Магда прылажыла руку да лоба Івана. Яшчэ большы жаль падшыб Івана. Хіба ўзяць ды заплакаць? Зараўсьці на ўсю хату? Не! падумае, што ён — нюня, плаксівая баба; яшчэ і замуж не

захоча пайсьці. А боль так і ходзіць па ўсім яго целе і яму, Івану, так хочацца застагнаць. „Ці застагнаць ці не?“ — думае Іван. „Ой, скарэй-бы яна йшла да дому!“

— Мне, Магдачка, ня так ужо і кепска,—пачаў разважаць Іван Магду: — паляжу трохі і ўстану.

— Вось маладзец! — сказала Магда і нагнулася, каб пацалаваць хворага. Дрыжачка прабегла па целе Івана, яму стала надта прыемна. Ды Іван ахамянуўся: гэтак і ахвота пройдзе стагнаць і аддацца смутку.

— Можа-б табе, Іванка, спарыць гарнушачак малака?

Іван заматаў галавою і павярнуўся на другі бок.

Магда колькі мінуцін пасядзела маўчком, якбы раздумваючы над тым, — узлавацца, ці не. На ўсякі выпадак яна надзьмула губкі і насупіла крыху бровы: Іван незаметна павярнуў галаву і зірнуў на яе адным вокам; не—не выпадае так рабіць. Не адварочваючыся, Іван падняў руку і палажыў на плячо Магдзе. Гэтага было даволі, каб Магда зьмягчэла.

— Паляжы, саколік, а я прыбяру крыху ў хаце, — і, узяўшы венік, яна стала падмятаць хату, рабіць парадак, стаўляючы кожную рэч на сваё месца, а бедны Іван увесь аж кіпеў. Яму раптам зрабілася так нядобра, так заламала яму косьці, як-бы хто цісную яго абцугамі, аж ён скрыгітаў зубамі, каб стрымаць стагнаценьне, падкорчваў і выпроставаў ногі, варушыўся і пакутаваў, як пасоленая рыба. А Магда так павольна варушылася, як-бы і ня думала ісьці да дому. Часамі выходзіла

яна ў сенцы ды зараз-жа йзноў паказвалася ў хаце. А Іван, чуць толькі яна выйдзе, таропна ўглядаўся і прыслухваўся, як далёка адышлася Магда, каб застагнаць хоць адзін разок, і ніяк не ўдавалася.

— Божа мой! Што яна робіць са мною? Скарэй-бы пайшла ўжо адгэтуль, — не цярпелася Івану.

— Ну, Іванка, бывай здаровы...

Іван узрадаваўся на момант, ды зараз-жа яшчэ горш апаў духам, як Магда скончыла гаварыць:

— Ідзе сюды мама.

Сказаўшы гэта, Магда борзьдзенька пацалавала яшчэ раз Івана, прыгнула галаву і ціхачом шмыгнула за парог, на задворкі, каб не спатыкацца з маткай, і пашла дамоў.

— Эй, малады, малады! брыдка! Праз тры дні вясельле, а ён расьцягнуўся, як навой! — громка, на ўсю хату забарабаніла Настуля, Магдзіна маці.

— Што ў цябе баліць, Іванка?

— Нічога, — буркнуў сярдзіта Іван.

— Дык чаго-ж ляжыш?

— А што-ж мне рабіць? скакаць?

— На вясельлі скачы, а цяпер ачуньвай. Пакажы, сынок, свой лоб. — Іван злосна заварушыўся, лёг на сьпіну і выставіў лоб.

Старая Наста палажыла руку на лоб, потым з боку, потым з другога.

— Трохі ёсьць агонь, але нічагутка, глупства. Гэта табе з ветру пашкодзіла. Ось я зараз напару ліпавага цьвету з чаборыкам, вып'еш, прапацееш і пройдзе.

— Я і так ужо пацею, — адазваўся хворы.

— Ну, гэтага мала: трэба, каб спацеў ад зёлак,—стаяла на сваім Наста.

Бачыць Іван, што тут нічога ня зробіш.

— Нічога мне ня трэба. Дайце мне паляжаць спакойна і ўсё пройдзе.

— Хто-ж табе не дае ляжаць? Ляжы сабе, а лякарства я табе ўсё-ж такі дам.

— Ведаеце што, — пусьціўся Іванка ў хітрыкі: — мне так заманулася гарэлкі, што здаецца, што каб выпіў чарачку, то зразу ачуняў-бы. Каб як сказаць Магдзе, няхай-бы прынясла мне кручок.

— Гарэлкі зажадалася, кажаш?

— Ой, як хочацца!

— Ну, то яна напэўна паможа. Калі хворы чалавек моцна хоча чаго, то тое памагае. Я помню, мой Андрэй хварэў на тыфус. Стаў крыху ачуньваць. Зажадалася яму хлеба, як табе, ось, гарэлкі. А дактары — Божа барані есьці чорны хлеб. Я мусіла хаваць ад яго хлеб, хоць ён і стары, мой Андрэй, але хворы горш малога. Раз ён устаў ціханька ўночы, зайшоў у камору і чуцьшто ня цэлы бохан вытрубіў, і што-ж ты думаеш? Як бачыш, ачуняў... Ну, я пайду.

Счакаўшы крыху, Іван падняўся, падышоў да вакна — нікога няма. Тагды Іван паваліўся на пасьцель, накрыўся коўдраю, потым нагамі сьцягнуў яе з сябе, схапіўся за бакі.

— Ой! ой! ой! о-е-е-ё-ё-й! — заойкаў, застагнаў Іван і сам ня верыў гэтаму шчасьцю. Стагнаў ён доўга, стагнаў на ўсе лады і галасы: то высока і тонка, то нізка і тоўста, то каротка адрывіста, то працяжна і пявуча; пры гэтым ён

варочаўся, корчыўся так, што зубамі мог дастаць свае калены, то выцягаўся, колькі дазвалялі яму скура, жылы і косьці.

А як перастагнаў усё, то пачаў высьпёўваць свае стогны на манер песьні „Сонца ўсходзіць і заходзіць".

— О-о-о-ё-й! ё-ё-й — да!

— Вось табе і хворы: ляжыць сабе ды пяе,— сказала Настуля, пераступіўшы з Магдай парог хаты. У хвартуху ў яе быў гарачы імбрычак з зёлкамі і паўкварты гарэлкі.

— Выстагнаўся, дык і папраівіўся, — сказаў усьмяхаючыся Іван.

## СТАРАСЬЦЬ — НЯ РАДАСЬЦЬ.

Аб чым гэта думае стары Базыль, седзячы ўсю зіму на печы, а вясною і ўлетку дзе-небудзь на дварэ, або на прызьбе ў халадку? Сядзіць ён цэлымі гадзінамі і моўчкі пакуруе такую-ж старую, як і ён, люлечку, і сьліна часта цячэ па кароценькім цыбучку. Падыйдзе да яго хто — сын ці нявестка, ці ўнук, або хто з суседзяў, ён скажа колькі слоў, і скажа ціха, спакойным роўным голасам. У гэтым голасе ня чутно ані задору маладасьці, ані злосьці і крыўды сталага чалавека, ані жальбы старасьці. Так гаворыць толькі той, хто ўсё перажыў, усё пахаваў і каму ўжо нічога не асталося ў жыцьці. Скажа ды ізноў сядзіць маўчком, апусьціўшы пасівелую галаву.

А была яго пара! Была ў яго маладасьць, былі сілы і здароўе, радасьці і надзеі, былі нягоды, і іх было навет болей як дабра. Гучны, поўны сілы голас яго ня раз калісь будзіў поле, як з конікам ціха ішоў ён за сошкай, або як востраю касою рэзаў траву ў лузе, ці як сякерай сьсякаў ён векавыя дзеравякі ў лясох і выдзіраў з зямлі, глыбока і моцна заселыя ў ёй карчы, каб прыгатаваць для збажынкі мяккую пасьцельку.

І дзе яно ўсё дзелася?

Ці было ўсё гэта?

Жыў чалавек на сьвеце, многа бачыў усякай

прыгоды, не адно пакаленьне прайшло прад вачыма старога Базыля, а прыйшла пара і здаецца, што ты як-бы і ня жыў на сьвеце, як-бы ўсё гэта рабілася ў сьне, бо ўсё зьлілося ў адну чорную пляму, каторая вось-вось гатова патануць у багне мінуласьці.

Выйдзе стары Базыль на вуліцу і сядзе на прызьбе. Ён ужо нічога ня бачыць, толькі вушы яшчэ лучаць яго з жыцьцём, каторае шуміць і гамоніць усюды, ідзе ды ідзе сваім парадкам, але сам Базыль стаіць збоку, здалёк ад яго. Шарасьцяць па пяску вуліцы калёсы і крэкчуць ад цяжару наваленага гною ці дроў, забарабаніць пустое вядро на плячох маладзіцы, ці дзяўчыны, з рэчкі дакоціцца крык плытнікаў і рыбакоў, дзесь з боку звонка гудзяць дзіцячыя галасы, адным словам, адусюль даносяцца зыкі жыцьця; усе, каму яшчэ трэба прайсьці свой круг, шумяць і гамоняць і робяць сваю работу. Адзін толькі Базыль лішні тут і ўсім чужы, толькі для аднаго яго міма праходзіць гэтае жыцьцё.

І сядзіць ён, пакурые старую люльку, абапёршыся на кіёчак, і нешта думае, апусьціўшы ў зямлю свае нявідушчыя вочы. Аб чым-жа ён думае? Можа аб тым, што ён такі адзінокі і забыты, што ўсе яго таварышы даўно ўжо ляжаць пад крыжамі, і толькі ён, як той стары падгнілы дуб, растраціўшы сваё лісьцьцё, стаіць між зялёнымі дубамі і ўжо ня можа пяяць з імі ў адзін тон песьню жыцьця.

Адно толькі чуецца ў гэтых думках старасьць — чуецца ў іх смутак, бо цяжка стаяць над магілаю свайго жыцьця і пазіраць на яго разваліны.

## ЗЛО НЕ ЗАЎСЁДЫ — ЗЛО.

Цэлае лета вісеў жолуд на старым дубе. Бог яго ведае, як далей, а пакуль ён быў малы, вялікага гора зазнаць яму ня прыйшлося. Праўда, на яго тагды ніхто не зварачаў і ўвагі: як-бы яго і на сьвеце ня было, толькі сонейка, выплыўшы з-за лесу, узіралася на яго і пеставала сваім цяплом, бы тая маці. А калі, бывала, яно прыпякала надта горача — любоў часта пераходзіць свае граніцы, — маленькі жалудок хаваўся ў цяньку густых лістоў, як пан пад парасонам, і яму заўсёды было добра.

Так і вісеў ён, ні для кога незаметны.

Але-ж урэшце вісець яму абрыдла.

Яно такі й праўда: як-бы там ні было добра, але калі гэтае дабро цэлы век астаецца бяз усякай зьмены, то яно лёгка перастае быць дабром. Гэтак было і з жалудом: захацелася яму іншага жыцьця: так і цягнула яго саскочыць з галіны і пакачацца па мяккай зямлі. Ня раз ён ужо парываўся зрабіць гэта. Сказаўшы праўду, трохі з ветру гарыць сьвет. Бывала, чуць што ўзыйдзе сонца, гэты жартаўнік і штукар вецер зараз і цікаецца, але так, каб ня чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў. Што казаў жолуд, ня ведаю. Сьмялейшы вецер гаварыў галасьней, і вось што ён шаптаў раз да жалуда.

— Дурны ты! я пражыў на сьвеце болей вякоў, як лістоў на гэтым дубе, і кажу табе: калі ў цябе ёсьць сіла, ты заўсёды знайдзеш спосаб жыць на сьвеце, і ты праб'еш сабе дарогу—што жывое, жывым і застанецца.

А стары дуб тым часам гаварыў так:— Сынку, патрывай яшчэ крышку, падрасьці, уздужай. О! ты яшчэ ня ведаеш, як цяжка жыць на сьвеце. Паслухай мяне, старога. Ведама, бацька: шкада яму сына.—Ня пушчае бацька, — ціханька шаптаў жалуд на намову ветру.

І трэба-ж было, каб гэтую гутарку пачула сьвіньня! Раз, ужо зусім пад восень, жалуд абачыў, як пад дуб, рохкаючы, трушком падбегла лапавухая асоба. Угледзеўшыся добра, жалуд абамлеў: на зямлі ляжала шмат такіх-жа, як і ён, жалудоў, і сьвіньня хрумстала іх бяз усякай жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня, даруй Божа грэх. З вялікага страху бедны жалуд задрыжэў, вылузаўся з місачкі і зваліўся на зямлю ў двух кроках ад сьвіньні! Але зваліўся ён якраз у тую яміну, што вырыла сьвіньня сваім уласным доўгім лычом.

І вось што выйшла: сьвіньня хацела паесьці жалуды — і памагла вырасьці аднаму жалуду, вырыўшы яму пасьцельку. Жалуд к налецьцю (на лета) прарос і стаў дубком, а сьвіньню людзі закалолі, і яна стала мясам.

## ТОЎСТАЕ ПАЛЕНА.

1.

— Не! я яго такі жыцьця рашу. У катаргу пайду, а галаву яму скручу!

Злосна прайшоўся Паўлюк па хаце і з сілаю шпурнуў на лаву рукавіцы.

Жонка, стоячы з вілкамі каля печы, так і застыла. У чыгунчыку пабегла зацірка, а яна ўсё стаіць, слухае, чаго крычыць Паўлюк і хто яго так угнявіў.

Паўлюк Трывай толькі што прыехаў з лесу. трэба-ж было чэрцям нагнаць на гэты час аб‘ежчыка на камору! Знайшоў адно паленца, таўсьцейшае проці меры, і ён з-за таго паленца абярнуў увесь воз дроў.

— А каб на цябе ліха абярнулася, трасца табе, гад ты печаны! Каб табе даў Бог мазгі зьвярнуліся!

Ніяк ня мог супакоіцца Паўлюк.

— Гэта ўсё Сучынскі? — пытае жонка.

— А няўжо-ж хто. Ён.

— Вось гад! Праўдзівая сука. Вельмі верны служака. Усё роўна пайдзеш к чортавай мацеры, басяк! Думаеш міласьць заслужыш у князя? А якжа! расчыняй губу.

Паўлюк тымчасам сьціх.

Сядзіць над міскай з гарачым квасам і думае, відаць важную думку, бо ўжо заметна было, як хадзілі яго сківіцы: ня так проста, як звычайна, а неяк трохі наўскруч, як жорны.

І праўда — Паўлюк думаў. Думаў, як злавіць Сучынскага і паказаць яму гэта палена на яго ўласнай скуры.

2.

Прайшло ўжо з тыдзень часу, а злосьць у Паўлюка на аб'ежчыка Сучынскага ўсё не астывае. Дый як ёй астыць, скажэце? Пайдзе Паўлюк ранкам даваць каню сена, лучыць пад ногі палена і лішні раз напомніць Паўлюку тое тоўстае палена, з-за каторага яму Сучынскі зьвярнуў на камору дровы. І дзе ён не павернецца, то ўсюды так ці начай натыкаецца на праклятае палена. Пайдзе к суседу, там якраз на дрывотні пілуюць палена. Зайдзе ў хату, — у хаце суседзкая жонка, як наўмысьля, гаворыць:

— Ото-ж якое тоўстае палена! і ў печ ня ўправіш!

Выйдзе Паўлюк на вуліцу, там які-небудзь сабакар ганяецца з паленам за сабакамі.

Палена, палена і палена! Бадай вы пагарэлі! Як-бы на сьвеце болей і няма нічога, апроч гэтых пален. А ляжа Паўлюк спаць, перад вачыма так і стаяць палены.

— Ну-ж, гад! Не дажджэ твае ліха!— скрозь зубы цэдзіць Паўлюк і варочаецца на другі бок.

— Мамка! — крычыць гдзесь у кутку малы хлопчык, сын Паўлюкоў: — я скачаюся; ці няма чаго падлажыць з боку?

Зьлезь, сынку, пашукай каля печы палена і падлажы пад сяньнічок, — ад'зываецца з-падбарахла маці.

Паўлюк сярдзіта варушыцца на пасьцелі і стогне, як зьвязаны стары маркач, каторага стрыгуць. А хлопчык ужо шворыцца каля печы.

— Чорт іх ведае, якія тут палены,— бунтуецца хлопец: — усё нейкія так плашкі, каб дзе знайсьці крыху таўшчэйшае.

— Пашоў спаць! сну на цябе няма! — ня вытрымаў Паўлюк і падымае галаву, а сын, узяўшы палена, шыбуе ў запек і грукае паленцам на ўсю хату.

Паўлюк успамінае Сучынскага і ад злосьці скрыгоча зубамі.

— Што ты, Паўлюк, скрыгічаш?—пытае, лежачы з боку, жонка.

— Нешта, падла, зуб заныў, — лжэ Паўлюк, каб адчапіцца, і варочаецца ад жонкі на другі бок:

— А ты вазьмі сьцюдзенай вады, там каля парога стаіць на палене,—радзіць Паўлюку жонка.

— Сьпі лепей! — сьцяўшы зубы, гаворыць Паўлюк.

Патрошкі ў хаце ўсё заціхае, і салодкі сон усім зачыняе вочы. Адны толькі насы заігралі цяпер на ўсе галасы. Адзін нос тоненька высьвістваў:

— Э-гэ! Э-гэ!

Другі жаласна ныў, як малады каршунец у гнязьдзе:

— Фю! Фю!

Нос самога Паўлюка граў тоўста, з лёкатам і перабоямі, як буслы над маладымі бусьлянятамі. Так і відаць было, што гэтак можа граць толькі гаспадарскі нос.

Паўлюк спаў, але сьплючы ня мог ён збавіцца ад праклятага палена. Прысьніўся яму сон: Здаецца, едзе ён з лесу, вязе дровы. Спатыкаецца Сучынскі, і Паўлюк, многа не гаворачы, падыходзіць да аб'ежчыка і — трах яго па мордзе! Завязалася бойка. Пакаціліся яны абодва на зямлю, а аб'ежчык, кідаючыся, паваліўся Паўлюку на ногі. Паўлюк хоча іх выслабаніць і ня можа: замест Сучынскага зрабіўся таўсты кругляк. Паўлюк мардуецца, вырабляецца; спацеў увесь, робіць апошняе натужэньне, моцна варушыць нагамі.

Тут — грук яму жонка ў плечы.

— Га? што! — усхапіўся Паўлюк.

— Чаго ты трапечашся? бяз мала галёнкі мне не перабіў!

— Добрая галёнка — чуць ног не павыкручваў.

3.

Было яшчэ рана, — чэрці на кулачкі ня выходзілі, як прачхнуўся Паўлюк і аслабаніўся ад „тоўстага кругляка". Сон яго ўжо разагнаўся, і, як Паўлюк ня плюшчыў вочы, заснуць ужо ня мог.

— Што-ж? трэба ўставаць, — наважыў Паўлюк і падняўся.

Абуўшыся і апрануўшыся, пайшоў ён у гумно. Праз поўгадзіны з току данасіўся мерны стук адзінокага цапа. На таку ляжаў пасад жыта ў восем снапоў, паложаных па пары, каласы з каласамі. Паўлюк пачароднa абіваў цэпам, то адзін, то другі снапок і паволі, ды зложна, наступаў ён на снапы, зрэдка чуць падаючыся назад, каб спрытней было выбіць зярняткі, але, у агуле, ён ўсё

йшоў упярод, аж пакуль не даходзіў да апошняга снапка. Тагды ўжо ён, зьлёгка стукаючы цэпам, адходзіў назад, прыбіваў каласкі. Абабіўшы адзін бок снапкоў, ставіў цэп, варочаў іх на другі бок ды ізноў такім-жа парадкам калаціў іх. Адкалаціўшы, разьвязваў, зьнімаў перавяслы, рас цілаў снапкі ў пласты, ізноў біў, ізноў варочаў, вытрасаў кулі, мяў салому і так да канца, пакуль не канчаў усяго пасаду.

Малоціць Паўлюк, а думкі так і варушацца ў яго галаве. Думалася яму пра сон, — ніяк ён ня выходзіў з галавы, пра аб'ежчыка Сучынскага, аб тым, як і дзе яго злавіць і хоць-бы ў смак панабіваць гада. Забудзецца Паўлюк, думаючы аб Сучынскім, і так пачынае жарыць цэпам, што сноп падскокуе ў гару. Паўлюк у гэты мамэнт думае аб тым, як ён біў-бы Сучынскага. Зьвязуе куль і яму здаецца, што ён паваліў аб'ежчыка і душыць яго. Паўлюк забываецца да таго, што перавясла трашчыць у яго руках і рвецца. Потым Паўлюка пачынае займаць думка, як залучыць аб'ежчыка ў свае лапы.

Падпільнаваць яго ў лесе? Дык чорт яго ведае калі ён будзе ехаць або ісьці, ды ў лесе яшчэ хто наткнецца, а пры людзях такія справы ня робяцца.

Падгаварыць хіба навабранцаў, каб аб'юшылі яго, як будуць ісьці на прызыў. Але для гэтага трэба ня меней гарца гарэлкі дый трудна зрабіць так, каб людзі ня ведалі яго намовы. Не! калі рабіць, дык трэба зрабіць гладка, так, каб і камар носа не падтачыў.

— Як зрабіць?

І ізноў завярцеліся Паўлюковы мазгі, пайшлі

выдумляць хітрыя сеці, у каторых павінен быў заблытацца Сучынскі.

А каб проста падпаліць гада?

Што-ж? падпаліць ня штука, але ці хопіць розуму і хітрасьці схаваць канцы ў ваду. Ды што ў яго ёсьць? Згарыць будынак, — дык будынак скарбовы, на руку будзе скарбу—страхоўку вазьмуць і яшчэ падзякуюць, а самога зловяць — і бывай крама з таварам! Паўлюку аж страшна стала, як успомніў, як білі і засудзілі за падпал Трахіма Скарача. Не! і гэта нядобра. І яшчэ многа спосабаў перадумаў Паўлюк, але ніводзін не здаволіў яго.

4.

Нічога ня прыдумаў Паўлюк за ўсю раніцу: І злосьць яго брала, што нічым не дапячэш Сучынскага. Але яму тут памог сусед Сьцёпка Навой; памог зьнячэўку, і ў мысьлях ня маючы таго.

Гэта было ў панядзелак.

Прыходзіць да Паўлюка Сьцёпка пазычыць паўвасьміны. Затрымаўся трохі, разгаварыліся. А Сьцёпка якраз быў у нядзельку на рынку, хадзіў з жонкай купляць лён.

Вось і расказуе Сьцёпка як у хаце крамніка Хацкеля мужыкі пабілі паліцэйскага стражніка. Пятрусь Камар з Ябланаўкі і Мікіта Трацяк з Малой Слабодкі зайшлі да Хацкеля выпіць па чарцы... Ну, ці мала які можа быць у людзей інтэрас. Сядзяць сабе яны, выпіваюць. Уходзіць стражнік, садзіцца каля стала, за каторым сядзелі Пятрусь з Мікітай, — прыляпіўся, як той клешч да сабачага вуха. Ня гнаць-жа чалавека вон ад стала. Налівa-

юць і яму чарку, бо ўсякая, лічы, вантроба прагне гарэлкі. І ў стражніка была гэта вантроба, і ён так сама быў ня промах на гарэлку, асабліва калі гарэлка гэта нічога не каштуе.

Выпілі адну паўпляшку; выпілі другую, разьвязаліся языкі, зьявілася і рызыка.

— Ну! што-ж? — гаворыць Мікіта стражніку: — ты з намі піў, стаў цяпер і ты.

— А ты знаеш, з кім ты гаворыш? — пытае стражнік.

— Даволі зірнуць на тваю мардасіну, каб ведаць, якая ты штука, адказуе Мікіта, падпёршы рукою левы бок.

Слова за слова, завязалася сварка, а потым і бойка. Стражнік хацеў схапіць шаблю, але Пятрусь, як клешчамі, сьціснуў яго за плечы.

— Нічога не паможа табе гэта трапло, — гаворыць Пятрусь, ды разам з Мікітай павалілі яго на зямлю і давай мясіць. Зьбілі на горкае яблыка. А Мікіта яшчэ адрэзаў рамень ад шаблі, сказаўшы:

— Добра будзе вушкі паўстаўляць у лапці.

Паўлюк слухаў, не прапусьціўшы ніводнага слова.

— І суду ня будзе?! — спытаўся ён.

— Які суд? Чалавек ты! Пабіліся п'яныя, вось і ўсё, — гаворыць сусед.

Выслухаўшы расказ суседаў, Паўлюк павесялеў: яму прыйшла ў галаву мысьль, каторую ён так доўга шукаў і ня мог знайсьці.

5.

Спосаб быў знайдзены.

Цяпер астаецца залучыць на кірмашы аб'еж-

чыка, завясьці яго куды-небудзь да Хацкеля ці Каца, напаіць, і тагды можна будзе парахавацца.

У першую нядзельку адлажыў Паўлюк паўрубель грошай на гарэлку, каторую ён вып'е з Сучынскім, запрог коніка і ўжо забраўся ехаць. Неспакойна трохі было на сэрцы ў Паўлюка, дый злосьць яго стала пераходзіць, і ён гатоў ужо быў плюнуць і на той воз дроў, што на каморы абярнуў яму аб'ежчык, і на самога аб'ежчыка. Але, як ён выяжджаў з двара, жонха, вытнуўшыся з сяней, гаворыць да яго:

— Зайдзі, Паўлюк, у лясьніцтва і вазьмі асыгнату, бо скора ня будзе чым выпаліць у печы: скінулі-ж табе на каморы дровы.

— Але! гэта-ж я і забыўся, што дроў няма ні палена, — сказаў Паўлюк і ўзяўся за кішаню; ашчупаў паўрубель, завязаны ў анучыну, той паўрубель, каторы меў споўніць такое важнае назначэньне. У другім вузяпочку ляжалі дзьве залатоўкі на крупы, саракоўка на тараны і селядцы; залатоўка на соль і газу; дзьве дзесяткі і чатыры грошы на вобмешку вяпручку і яшчэ некалькі медзякоў на тытун і сярнічкі:

А за што ўзяць асыгнату на дровы?. Хіба за гэты паўрубель? Паўлюк на мамэнт задумаўся, а потым сьцебануў пугаю каня і паехаў сярдзіты і нездаволены. Ізноў ня было спакою на душы ў Паўлюка, ізноў перад вачыма стала тоўстае палена, воз дроў, аб'ежчык, камора.

— Хіба ты скрозь зямлю правалішся! Будзеш ты ў мяне помніць гэта палена: бакамі яно табе вылезе, — гаварыў сам сабе Паўлюк, згартаючы руку ў кулак.

Невясёлыя думкі насіліся ў Паўлюковай галаве.

і навокал было так нярадасна і няпрыветна, як у Паўлюка на сэрцы. Дзьмуў сьцюдзёны вецер, зьмятаў з узгоркаў сьнег і агаляў пясчаныя іх скаты. Дзе-ня-дзе ў полі на межах стаялі адзінокія ігрушы і сіратліва махалі сваімі голымі галінамі, пацёпваючыся, як сталыя жанчыны з холаду. Там і сям параскідаліся па полі каменьні, як сьвіньні, і маўкліва ляжалі і мерзьлі на марозе.

— Ім усё роўна, цяпло ці холад. Скаці іх на загон, — будуць ляжаць на загоне, нікому не пажаляцца на сваю долю, — думаў Паўлюк пазіраючы на гэтыя каменьні. Малады хвойнік рэзка вылзяляўся сваімі зялёнымі вярхамі на сьнежным полі і яны гультаежліва падымалі і апускалі свае непавароткія лапы, усё роўна як за каўняром іх што кусала. Дарога, ідучы ў лес, станавілася гладкай і роўнай. Конік вясёла пырхаў і рэзва перабіраў сваімі тоўстымі нагамі. Аднатонны шум лесу закалыхваў памаленьку Паўлюковы думкі і спакоіў яго душу. Паўлюк дастаў кісэт, падарунак жонкі, як яна яшчэ была дзяўчынай, люльку, выкрасіў агню і закурыў. Сіняваты дымок уздымаўся клубочкам па сьвежым паветры і борзда прападаў, а разам з ім і прападалі трывожныя думкі Паўлюковы. Цяпер Паўлюк быў спакойны, як чалавек, каторы цьвёрда, раз на заўсягды, паставіў сабе вядомую мэту.

— А правучыць, гада, ня шкодзе, — закончыў Паўлюк сваю раздуму аб Сучынскім і грозна пагнаў свайго коніка.

6.

Яшчэ за паўвярсты ад мястэчка Паўлюка сустрэла жыдоўка з трыма пеўнямі пад пахай і пытала:

— Цалаваца! моза маес сто на продаз?

Паўлюк толькі зірнуў, але нічога не сказаў. З усіх бакоў у мястэчка паўзьлі, як мурашкі, хурманкі і вязьлі розныя тавары: Усё места было ўжо ўстаўлена вазамі. Між гэтых вазоў прабіраўся Паўлюк да свайго кагалу. Там было ўжо многа мужчын і жанок з іх сяла. Залажыўшы ў кішані рукі, з люлькаю ў зубах, стаяў каля сваіх саней Антось Дубок, голасна гаварыў, рагатаў раскацістым сьмехам і ўсякаму, хто з ім не згаджаўся, сьмела кідаў:

— А ну, давай заложымся!

Але ахвотнікаў ісьці з ім у заклад ня было, а некаторыя проста раілі Антосю Дубку залажыць за губу рэч ня надта самавітую.

— Во! — весела крычэў Антось:—збаяўся— і выставіўшы жывот-ночвы, закідаў угару галаву і ізноў рагатаў. Паўлюк спыніўся, выпраг каня, павесіў яму торбу з сечкай і азірнуўся. Народу было поўнае места, але запраўдны торг яшчэ не пачынаўся. Увесь рынак можна было падзяліць на некалькі малых рынкаў. Кожная вёска займала асобнае месца, куды і прывозілі свае тавары, У адным месцы стаялі вазы з цэбрамі, ражкамі. паўвасьмінамі; у другім—дровамі, дошкамі; у трэцім — з лёнам, у чацьвертым — збожжам. Сярод рынку стаялі гаршчкі, міскі, збаны, лыжкі; тут-жа дзе-небудзь раскладаў свой тавар рускі, каторы таргаваў абразамі і кнігамі.

Людзкі гоман, піск сьвіней, парасят і ўсякай жывёлы зьлівасўя ў адзін нястройны гул. Там і сям віднеліся сінія шапкі і чырвоныя шнуры.

Торг памалу пачынаў ажываць. Між вазоў шворыліся розныя купцы. То там, то сям стаялі

кучкі жыдоў і мужыкоў. Адзін сівабароды жыд так заядла таргаваўся, так выкрыкваў і біў сябе кулаком у грудзі, як бы яму зрабілі вялікую крыўду. Каля крамаў хадзілі некалькі жанок, шукаючы сваіх мужыкоў. То адна, то другая пыталіся сваіх знаёмых:

— Ці ня бачылі майго Грыгора?

А Грыгор у гэты час сядзеў ужо каля бутэлькі і варочаў п'янымі вачыма.

У адным месцы адно праразьлівае п'янае горла крычэла:

— Ты мой наймілейшы прыяцель!

Другое, хрыпатае, лаялася апошнімі славамі, лезучы да першага цалавацца:

— Братка ты мой, халера ты!

Але ня гэта цікавіла Паўлюка. Ён стаяў адзін і пільна прыглядаўся, ці ня згледзіцца дзе шапка з зялёным вярхом. Ужо трох лясьнікоў ён чуць быў ня прыняў за аб'ежчыка, і кожны раз ёкала яго сэрца.

— Што ж гэта ня відаць яго, смурода?—пытаў сам сябе Паўлюк.

А! вунь ён.

Паўлюк аж задрыжэў: у трох кроках ад яго стаяў Сучынчскі.

Азіраючыся навокала, Паўлюк сьмела ідзе да аб'ежчыка. Ён даўно ўжо выдумаў хітры плян, як залучыць свайго непрыяцеля ў патайную каморку карчмы Шварцавай, у каторай быў прыпынак усіх заядлых выпівох.

— Я хачу з панам пагаварыць,—сказаў Паўлюк, падыйшоў да аб'ежчыка, пры гэтым ён пастараўся зрабіць, як можна добрую і прыветлівую міну.

— Аб чым? — пытае аб'ежчык.

— А вось...— Паўлюк трохі замяўся і боязна азірнуўся на ўсе бакі.

— Мо'-б мы з панам зайшлі куды-небудзь?

— Куды-ж мы зайдзем?

— Ды зайдзем хоць да Шварца.

Аб'ежчыкаў нос зразу зьнюхаў гарэлку.

Мужчыны пайшлі, Паўлюк уперадзе, а за ім Сучынскі.

Усе каморкі ў Шварца былі набіты народам, на падлозе валяліся коркі ад піўных бутэлек; пахла гарэлкай і селядцамі.

Паўлюк выбраў цёмную каморку і пакінуў аб'ежчыка, а сам адыйшоўся зрабіць заказ на выпіўкі.

Пакуль Шварц шворыўся з выпіўкаю і закускаю, мужчыны гаварылі аб розных справах: аб тым, як цяпер усё стала дарага, якія пайшлі парадкі, успаміналі даўнейшыя часы і г. д.

Тым часам Шварц прынёс кварту, дзьве чаркі і два селядцы на талерцы. Паўлюк наліў чаркі.

— Будзьма здаровы,— сказаў Паўлюк, узяўшы чарку і матнуўшы да аб'ежчыка галавою. П'ючы Паўлюк зірнуў на аб'ешчыка і шчаміў пад сталом кулак.

Аб'ежчык толькі што пасьпеў ткнуць у селядца вілцам, як Паўлюк наліў яшчэ па чарцы.

Гарэлка сагрэла Паўлюка, і прыемная цяплыня пайшла па ўсім яго целе. А як бутэлька спаражнілася да паловы, Паўлюку надта вясёла стала на душы. І людзі ў яго вачох зрабіліся другімі, і яго ўласнае жыцьцё стала лёгкім і прыемным.

— А ўсё-ж я табе паб'ю рыла! даль-Бог паб'ю, — гаварыў сам сабе Паўлюк і шчыкаў сам сябе за сьцегнякі.

Выпілі яшчэ.

— Здаецца ўжо час біць яго, — разважаў далей Паўлюк. — Не, яшчэ вып'ю!

І ізноў ён наліваў гарэлку.

— Ты ведаеш, прахвост, дзе ты ў мяне сядзіш? Во тут! — хацеў Паўлюк паказаць на сваё горла.

Аб'ежчыку таксама было весела, і яны сабе сядзелі, цюкалі па чарцы, як найлепшыя сябры.

— Шварц! Шварц! — загукаў Паўлюк: — дай яшчэ паўкварты. — Паўлюку здавалася, што ён яшчэ ня надта сярдзіты.

— А ўсё-такі паб'ю табе морду, — думаў Паўлюк, зрэдка паглядаючы скоса на Сучынскага.

Яшчэ ня быў выпіты паўбутэлек, а Паўлюк ужо абымаў аб'ежчыка і гаварыў.

— Хоць ты і сабака, лайдак і сьвіньня, і хоць я паб'ю такі тваё рыла, але я люблю цябе!

Паўзучы ад Шварца чуць ня ракам, Паўлюк марматаў:

— Я!.. Я скручу яму галаву!..

## ЗЬМЕСТ.

